

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№6(519) 6 студзеня 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Возле реактора прохладнее

**Более 600 беженцев из "горячих точек" бывшего СССР нашли пристанище на Гомельщине.**

Многие из них согласились ехать в загрязненные радионуклидами районы — Чечерский, Наровлянский, Ветковский, где есть свободное жилье. Похоже, для беженцев радиация не так страшна, как автоматы, пулеметы, установки "Град" или "Алазань".

**Анатолий ИВАНОВ.**

### Бобруйск — город хлебный

**В Бобруйске начали действовать три фирменных магазина местного хлебозавода.**

Впрочем, не от хорошей жизни пекари пошли на создание собственной торговой сети. В городе — постоянные перебои с хлебом, особенно к концу дня. Проверки показали, что некоторые торговые точки сознательно занижают заявку на его поставку, искусственно создавая тем самым дефицит.

В собственных же магазинах завода хлеб имеется постоянно, к тому же торговая наценка здесь значительно ниже, чем в остальных булочных города.

**Борис МИХЕЕВ, БелаПАН.**

### От доброты бывает тепло

**Неожиданный подарок к новогодней елке получили Галина Нормантович, Владимир Валюкевич и еще 14 инвалидов, проживающих в частных домах Гродно и Гродненского района.**

Им было передано 10 тонн угля и столько же торфобрикета. В роли Деда Мороза выступило совместное белорусско-польское предприятие "Полымя", снабжающее Гродненщину силезским углем.

**Ольга ОЛЕГОВА.**

### И тут не обошлось без привилегий?

**На внеочередном собрании акционерного коммерческого банка "Дукат", которое проводилось в конце прошлого года, принято решение об индексации стоимости акций 1-го выпуска гражданам (акционерам банка) на 100 %, а также об увеличении уставного фонда банка до 1 млрд. руб. и 1 млн. долларов США.**

Акции будут выпускаться двух видов: простые именные и привилегированные. Начало открытой подписки на акции 2-го выпуска планируется на 15.01.93 г.

### Мы — мирные люди...

**В могилевских магазинах появились в продаже предметы сугубо военного назначения.**

Приобрести противогаз можно всего за пятнадцать рублей. Ну, а за бронежилет нужно "отвинтить" ни много ни мало сорок тысяч. Однако такого рода снаряжение ажиотажным спросом в настоящее время не пользуется. То ли граждане не верят, что оно когда-нибудь понадобится, то ли предпочитают тратить деньги на товары более мирной направленности.

**Борис МИХЕЕВ, БелаПАН.**

### Вчера услышали...

* Переговоры в Женеве по урегулированию боснийского конфликта отложены до воскресенья.

* Министр обороны США Чейни заявил, что в этом месяце США начнут вывод своих вооруженных сил из Сомали, однако, по его словам, эта страна все еще слишком опасна для миротворческих сил ООН.

* Ирак передислоцировал свои противовоздушные ракеты в запретную для полетов зону на юге страны.

**(По сообщениям радио "Свобода", Би-би-си.)**

### Вкратце

**Грузия обратилась к ООН с просьбой о том, чтобы Совет Безопасности принял резолюцию о безотлагательном направлении сил ООН по поддержанию мира в абхазский регион.**

Просьба содержится в письме председателя Верховного Совета и главы государства Республики Грузия Эдуарда Шеварднадзе на имя Генерального секретаря ООН Бутроса Гали.

* * *

**Вечером 2 января в минском Кафедральном соборе впервые по-белорусски проведена братская исповедь.**

Исповедовал клирик собора отец Дмитрий (Башко), который, кстати, и сделал перевод.

* * *

**Российские пограничники помешали группе из 15 человек прорваться с боем из Афганистана на территорию Таджикистана.**

В бою с пограничным нарядом убиты трое, остальные были вынуждены вернуться.

* * *

**На днях состоялась 20-минутная беседа по телефону между избранным президентом США Биллом Клинтоном и президентом России Борисом Ельциным.**

Б.Клинтон и Б.Ельцин поручили назначенному госсекретарем США Уоррену Кристоферу и министру иностранных дел России Андрею Козыреву "в ближайшее время начать обсуждение направлений взаимного диалога по СНВ", а также "подготовку к проведению в возможно ранние сроки" рабочей встречи двух президентов.

* * *

**В штаб-квартиру СНГ поступило послание лидеров Республики Беларусь С.Шушкевича и В.Кебича к руководителям стран Содружества, в котором содержится предложение провести встречу в Минске 22 января.**

"Имеем честь, — говорится в послании, — пригласить глав государств и глав правительств в Минск вместе с супругами, для которых подготовлена отдельная программа".

**(ИТАР—ТАСС, БелаПАН, "Народная газета".)**

### Праздник души

**Как сообщили в Минско-Слуцком епархиальном управлении, в рождественские дни предусматриваются большие торжества.**

В минском Кафедральном соборе праздник открывается 6 января всенощным бдением, которое начнется в 18 часов великим нововечерием. Божественную литургию в 2 часа ночи 7 января совершит митрополит Минский и Слуцкий, патриарший экзарх всея Беларуси Филарет. Вторая божественная литургия начнется в 7.00, третья — в 10.00. В 18 часов во время вечернего богослужения верующих поздравят с наступившим праздником Рождества Христова.

Торжественные службы состоятся во всех православных приходах Беларуси, в воскресных же школах при них — утренники в честь Рождества Христова.

В концертных залах республики будут даны концерты духовной музыки.

**Марат ВРУБЛЕВСКИЙ, БелаПАН.**

### Давай, "Гомсельмаш", потихонечку трогай...

**Наконец-то приостановлено падение производства в объединении "Гомсельмаш".**

Есть даже небольшой рост выпуска продукции. Особые надежды сельмашевцы связывают с прицепным кормоуборочным комбайном КДП-3000, испытание которого только что завершилось. Он будет работать в паре с мощными тракторами Т-150, имеет шлейф жаток и подборщиков, позволяющих управляться с травами и кукурузой. Более того, КДП-3000 на три четверти унифицирован с универсальным "Полесье-250" и примерно настолько же дешевле. До конца года объединение намерено выпустить 500 новых прицепных комбайнов.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Шумит рублями валютный лес

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 490 | 502 |
| Немецкая марка | 300 | 307 |
| Английский фунт | 708 | 729 |
| Французский франк | 85 | 87 |
| Финская марка | 88 | 91 |

Буквально за последние два дня доллар подорожал на двадцать рублей. Сейчас его средний курс в республике 510—520 "деревянных". По прогнозам специалистов, нынешнее падение рубля по динамике будет напоминать осеннее. Когда одну неделю, что называется, "шумел рублями валютный лес", а в следующую — затишье.

Предполагается, что "зеленые" будут подниматься на 5—6 пунктов в неделю.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**

### Нехорошая весть об "Известиях"

**С середины декабря в Санкт-Петербурге не печатаются "Известия".**

Это не результат чьих-то козней, а следствие задолженности газеты типографии в сумме около 6 млн. рублей (цена бумаги и типографских услуг). Последние две недели газета выпускалась в долг.

**Михаил КАРЧИК, РИД.**

**"Горячий" телефон 20-83-97 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

# Святкуючы Дзень Раждаства Хрыстовага

***Рождество Твое, Христе Боже наш, возсия мирови свет разума, в нем бо звездам служащии звездою учахуся Тебе кланятися, Солнцу правды, и Тебе ведети с высоты Востока. Господи, слава Тебе!***

**Трапар Раждаства Хрыстовага**

**Узлюбленыя клір і паства зямлі беларускай!**

Святкуючы дзень Раждаства Хрыстовага, мы ісцінна, найперш, павінны ўславіць і ўдзячыць Бога за мудра прыгатаваны нам шлях уратавання ад грэху і вечнае смерці.

Евангеліст Іаан Багаслоў перадае нам сведчанне Сына Божага, які сказаў пра Сябе: "Тако бо возлюби Бог мир, яко и Сына Своего единороднаго дал есть, да всяк веруяй в Онь не погибнет, но имать живот вечный" (Ін. 3, 16).

Так, вялікая і непамерная любоў Бога да нас, слабых і немачных людзей, — любоў Госпада нашага Іісуса Хрыста, які прыняў вобраз чалавечы, папраў грэх і смерць і прадабвясціў Сваім Уваскрэсеннем радасць усеагульнага ўваскрэсення з мёртвых.

Што можа быць вышэй за гэтае сашэсце?! Нічога ва ўсім Сусвеце не параўнаецца з ім па вышыні і ахвярнасці любві, яўленай Госпадам нам у настаўленне.

Бог бясконцы і беспачатковы, пагардзіўшы нявартасць паўшага і заблукалага свету, увасобіўся ў чалавека і "... Себе умалил, зрак раба приим, в подобии человечестем быв, и образом обретеся, якоже человек: смирил Себе, послушлив быв даже до смерти, смерти же крестныя" (Флп. 2, 7—8). Таму разам са свяціцелем Кірылам Тураўскім усклікнем у дзень Раждаства: "Велика и неизреченна милость Его на роде человечестем, ею же помилованы быхом!"

Браты і сёстры! На вялікую Хрыстовую любоў чым адкажам мы, як не любоўю; на міласэрную спагадлівасць да нас, нявартых Госпада, чым адзавёмся мы, як не пасільным учыненнем дзеяў міласэрнасці? Паслухаем яшчэ Тураўскага Залатавуста, які не стамляўся заклікаць сваю паству: "Останемся от злых дел, изыдем любовью, сложим гневодержание, воскликнем молитвами и беззлобием, приидем милостынями к нищим!"

А што мы? Чым штодзённа адказваем на ахвярную любоў Божую? Ціхмянасцю? Яе мала ў нас. Пакаяннем? Мы каемся недастаткова. Міласцінай? Мы нярэдка адмаўляем у ёй немаёмным. На што спадзяёмся мы, слабеючы ў малітве, азлобленыя адзін да аднаго, імкнучыся часцей да таго, што не параўнальна з духоўнымі скарбамі, набыццё якіх запавядана нам Госпадам у Нагорнае пропаведзі?!

Задумаемся, узлюбленыя, над веліччу ахвяры, што прынесена за нас Хрыстом, — і якім жа вялікім павінна быць пакаянне, наша імкненне надалей быць лепей, чым мы ёсць сягоння!

Узлюбленыя! Мінулы год быў азнаменаваны святкаваннем



1000-гадовага юбілею Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Дзесяць вякоў прайшло з тых часоў, як благадатнае зерне Праваслаўя было пасеяна на нашай зямлі. За гэтыя стагоддзі змянілася мноства пакаленняў людзей, адышлі ў нябыт розныя дзяржаўныя ўладкаванні, да непазнавальнасці змяніўся грамадскі ўклад, і толькі святая Царква з яе вечнаю пропаведдзю любві і дабра, з яе імкненнем да міру і згоды ў сэрцах людзей застаецца нязменнаю і, нягледзячы на ўсе перажытыя ўціскі і разбурэнні, захоўвае вернасць свайму Заснавальніку — Госпаду нашаму Іісусу Хрысту!

Дзесяць стагоддзяў, што прайшлі з часоў зладжання Царквы на Беларусі, былі адзначаны адметнымі дасягненнямі ў царкоўнай культуры: з'яўленнем выдатных твораў багаслоўя і прапаведніцтва, пабудовай цудоўных храмаў, шырокім распаўсюджаннем кніжнае справы, іканапісу, з'яўленнем у народзе падзвіжнікаў благачэсця — святых, што праззялі на зямлі беларускай.

Браты і сёстры! У наш няпросты, цяжкі час важна ва ўсёй паўнаце ўспрыняць дары гэтай найбагацейшай духоўнае спадчыны, не разгубіць яе, але далучыцца да яе скарбаў. Неабходна, уз'яднаўшы сувязь часоў, перарваную ў папярэднія гады, працягнуць традыцыю складання царкоўнага жыцця: пабудову храмаў і манастыроў, добраўпарадкаванне прыходаў, пашырэнне царкоўнага настаўніцтва праз пропаведзь і работу нядзельных школ, — і ўсё гэта павінна ўчыняцца пры захаванні міру ва ўласных нашых сэрцах.

Шлях гэты — безумоўна, цяжкі, асабліва цяпер, калі руйнуецца шмат з таго, чым мы жылі яшчэ нядаўна, калі ўсё невырагодна даражэе, і толькі жыццё чалавечае — гэты свяшчэнны дар — з кожным днём абясцэньваецца магутным націскам гвалту і распуснасці нораваў.

І, аднак, нягледзячы на суровасць нашых будняў, на іх мітусню і складанасць, я заклікаю вас, дарагія суайчыннікі, не падаць духам, але, па слове апостала Паўла, любоўю служыць адзін аднаму, бо ўвесь закон у адзіным слове заключаны: "возлюбиши ближняго твоего, якоже себе" (Гал. 5, 14). Таму, наследуючы апосталу, "не бываим тщеславни, друг друга раздражающе, друг другу завидяще" (Гал. 5, 26), але "дондеже время имамы, да делаим благое ко всем..." (Гал. 6, 10).

У духу гэтае запаведзі апостала я сардэчна віншую са святам Раждаства Хрыстовага іншаслаўных паслядоўнікаў Госпада нашага Іісуса Хрыста, што жывуць на Беларусі, і жадаю ўсім дабра і міру.

Узлюбленыя ў Госпадзе Прасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, багалюбныя інакі і ўсе благачэсныя чады Беларускай Праваслаўнай Царквы! Пакі ўзрадуемся Раждаству Хрыстоваму і ўслед свяціцелю Кірылу Тураўскаму "песьнями, яко цветами, Святую Церковь увенчаем и праздник сей украсим!"

Ад усёй душы віншую вас з вялікім і ўратавальным святам Раждаства Хрыстовага і жадаю вам у новым годзе Божай успамогі і заступніцтва Найблагаславёнейшай Маці і Дзевы і хадайніцтва ўсіх святых, што праззялі ў Бозе па ўсім свеце. Амінь.

**ФІЛАРЭТ,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

Раждаство Хрыстовае, 1992—1993 гг.
г.Мінск.

*Адкрыты ліст Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь спадару Шушкевічу С.С.*

## Адна ў чалавека Радзіма-маці, адна ў яго і мова

Паважаны Станіслаў Станіслававіч!

Чым бліжэй час разгляду на Вярхоўным Савеце пытання "Аб ходзе выканання Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", тым мацней шалёны енк у сродках масавай інфармацыі, на сходах і мітынгах праціўнікаў нацыянальнага беларускага Адраджэння. Справа дайшла да адкрытай абразы дзяржаўных сімвалаў у самім Вярхоўным Савеце.

У ход пускаецца ўсё: адкрыты паклёп, падман, падтасоўка гістарычных фактаў, запалохванне людзей Карабахам і Прыднястроўем і інш. Мы выдатна разумеем, што ворагам беларускага Адраджэння аднолькава напляваць як на беларускую, так і на рускую мову, мэта ў іх адна — вяртанне мінулага ў яго найгоршым выглядзе, знішчэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Таму мы звяртаемся да вас, паважаны Станіслаў Станіслававіч, як да першай асобы дзяржавы, як да чалавека, адданага справе нацыянальнага Адраджэння, прыкласці ўсе высілкі і не дапусціць чарговага здзеку над гонарам і годнасцю беларускага народа, не дапусціць ганьбы ў вачах сусветнай супольнасці народаў.

Адна ў чалавека Радзіма-маці, адна ў яго і мова. А двухмоўя быць не можа. Дзяржаўнай павінна быць беларуская мова.

Жыве Беларусь!

**Жыхары Валковіцкага сельскага Савета Навагрудскага раёна:**

**У.І.Басюк, В.М.Басюк, Гладкая, Ціліпчык, Гладкая, Бурлыка, Кучук, Філіпчык, Грыц, Сявец, І.І.Філіпчык, Малахоўская, А.Філіпчык, Я.Філіпчык, А.К.Чырвоны, З.Н.Чырвоная, В.Кузьміч, М.І.Філіпчык, С.М.Філіпчык, Л.П.Казлова, Н.Н.Сідорка, Г.Т.Кавальчук, Булай, Іваноў, Карповіч, Капацэвіч, Дарашэвіч, Саўко, Кот, Кавальчук, Емельяновіч, Басюк, Ашманкевіч, Некраш, Малевіч і іншыя — усяго 70 подпісаў.**



Народная газета

*Таленты Айчыны*

# Важкі ўклад у беларускую навуку

Прысуджэнне Дзяржаўных прэмій у нашай рэспубліцы праводзіцца адзін раз у два гады. Са змяненнем статусу рэспублікі змяніўся і статус прэміі. Цяпер гэта прэмія суверэннай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь. Каб падкрэсліць яе значнасць, распрацаваны новыя атрыбуты лаўрэата — Дыплом і Ганаровы знак. Камітэт па Дзяржаўных прэміях прад'явіў больш высокія патрабаванні да прадстаўленых прац. На жаль, у мінулым годзе колькасць паступіўшых у Камітэт прац значна меншая, чым у папярэднія гады. Разглядалася 14 прац у галіне навукі і тэхнікі і 2 камплекты падручнікаў, у той час як, напрыклад, у 1990 годзе — 26 прац і 5 камплектаў падручнікаў.

Па выніках тайнага галасавання Камітэт вырашыў прысудзіць Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь 1992 года тром працам у галіне прыродазнаўчых навук і дзвюм працам у галіне тэхнікі. У галіне гуманітарных навук было вырашана прэміі не прысуджаць.

Адна з прэмій у галіне прыродазнаўчых навук прысуджана калектыву аўтараў-фізікаў, прадстаўленаму Інстытутам фізікі імя Б.І.Сцяпанава Акадэміі навук Беларусі. Атрыманыя арыгінальныя эксперыментальныя і тэарэтычныя вынікі — спосабы лазернай тэхналогіі — з'яўляюцца навуковай асновай лазерна-плазменнай апрацоўкі канструкцыйных і тэхналагічных матэрыялаў. Сукупнасць атрыманых вынікаў можна разглядаць як з'яўленне новага навуковага напрамку ў фізіцы ўзаемадзеяння патокаў лазернага выпраменьвання з рэчывам — радыяцыйнай лазернай плазмадынамікі.

Дзве другія прэміі ў галіне прыродазнаўства прысвоены прадстаўнікам біялагічных навук.

Высокую ацэнку членаў Камітэта і вядучых спецыялістаў атрымаў цыкл прац па распрацоўцы і ўкараненню ў практыку сасудзістай хірургіі новых метадаў дыягностыкі і лячэння, якія прадстаўлены Інстытутам удасканалення ўрачоў. Адзначаны карэнныя змены ў арганізацыі і развіцці хірургіі сасудаў у рэспубліцы. Выдадзеная манаграфія па анеўрызме аорты з'яўляецца першай у сусветнай практыцы. Дадзены перадумовы ўкаранення ў шырокую практыку трансплантацыі артэрыі ў брушной хірургіі, а многія аперацыі ў гэтым напрамку здзейснены ўпершыню ў свеце.

Яшчэ адзін калектыў біёлагаў удастоены прэміі за цыкл прац па люмінесцэнцыі бялкоў і яе выкарыстанню ў навуковых даследаваннях і практыцы. Ён прадстаўлены Інстытутам фотабіялогіі Акадэміі навук Беларусі. Цыкл прац прысвечаны дэталёваму вывучэнню прыроды і механізмаў люмінесцэнцыі бялкоў, высвятленню інфармацыйных магчымасцей люмінесцэнтнага аналізу, а таксама выкарыстанню новага метаду для вырашэння навуковых пытанняў у біялогіі і практычных задач у медыцыне.

У выніку праведзеных даследаванняў прапанаваны флуарэсцэнтны метад ацэнкі структурнага стану бялкоў. Распрацаваны экспрэс-метад дыягностыкі злаякасных новаўтварэнняў па змяненню інтэнсіўнасці флуарэсцэнцыі сывараткі крыві хворых і шэраг іншых метадаў неразбуральнага кантролю біялагічных працэсаў у клетках і тканках.

У галіне тэхнікі прэміі прысуджаны двум аўтарскім калектывам: прадстаўлены Інстытутам фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў Акадэміі навук Беларусі, за цыкл прац па распрацоўцы навуковых асноў сінтэзу звышцвёрдых інструментальных матэрыялаў; прадстаўлены навукова-вытворчым аб'яднаннем "Інтэграл", за цыкл прац па стварэнню і прамысловай рэалізацыі высокаэфектыўнай сістэмнай тэхналогіі масавай вытворчасці звышвялікіх інтэгральных схем.

Аўтарамі першага цыкла прац паспяхова вырашана задача стварэння і ўкаранення новага класа высокаэфектыўных інструментальных матэрыялаў — полікрышталяў кубічнага бору (КНБ) і звышцвёрдых матэрыялаў на яго аснове, а таксама тэрмаўстойлівых полікрышталяў алмазу. Шэраг навуковых дасягненняў мае прыярытэт у параўнанні з вынікамі замежных даследчыкаў. Аб завершанасці і маштабнасці работы сведчыць эканамічны эфект ад укаранення яе вынікаў, які перавышае 50 млн. рублёў.

Другая прэмія прысуджана аўтарскаму калектыву, які распрацаваў метадалагічныя асновы комплекснай тэхналогіі праектавання і ўкаранення высокаэфектыўных тэхналогій масавай вытворчасці высакаякасных інтэгральных схем, заснаванай на шырокім выкарыстанні сістэмнага падыходу і аналізу, высокай алгарытмізацыі дзеянняў персаналу. Выкананы комплекс прац дазволіў беларускай мікраэлектроніцы дасягнуць міжнароднага ўзроўню. Спецыялісты адзначаюць, што НВА "Інтэграл" — адзінае буйное вытворчае аб'яднанне СНГ у галіне электроннай тэхнікі, якое распрацавала агульныя тэхналагічныя падыходы да праектавання і масавай вытворчасці высакаякасных сучасных звышвялікіх інтэгральных мікрасхем (ЗВІС). Гэта патрабавала распрацоўкі і стварэння прынцыпова новых для мікраэлектронікі нізкатэмпературных электрахімічных і іонна-фатонных тэхналогій, мадэлявання і аптымізацыі больш як 20 тэхналагічных працэсаў, мадыфікацый звыш 80 адзінак абсталявання, укаранення больш чым 200 тэхналагічных інструкцый, тыпаў спецыяльнай аснасткі і тэставых шаблонаў для рэалізацыі метадаў атэстацыі працэсаў і абсталявання. Сумарны эканамічны эфект ад іх укаранення ў галіне перавысіў 100 мільёнаў.

Выклікае спачуванне тое, што ў галіне гуманітарных навук не вызначаны прэміяй цыкл прац "Скарына і беларуская культура", прадстаўлены Інстытутам літаратуры імя Я.Купалы Акадэміі навук Беларусі. У гэтым цыкле — вынікі шматгадовых даследаванняў важных і актуальных праблем скарыназнаўства. Нягледзячы на адмоўнае галасаванне, на думку большасці членаў Камітэта, калі аўтары гэтай працы прымуць да ўвагі ўсе заўвагі і прапановы, якія паступілі ў ходзе абмеркавання, яна безумоўна можа прэтэндаваць на прысуджэнне Дзяржаўнай прэміі.

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі былі вылучаны таксама два камплекты падручнікаў. Гэта — падручнікі "Беларуская мова" — для 2—4-х класаў школ з рускай мовай навучання; "Чарчэнне" — для сярэдняй школы і "Начартальная геаметрыя" — для студэнтаў педагагічных ВНУ. Калі да "Беларускай мовы" ў спецыялістаў і рэцэнзентаў быў шэраг прэтэнзій і крытычных заўваг, то падручнікі В.Н.Вінаградава заслужылі самую высокую адзнаку. Аднак да пачатку галасавання аднадушнага меркавання ў членаў Камітэта не склалася. У выніку для прысуджэння прэміі падручнікам "Чарчэнне" і "Начартальная геаметрыя" не хапіла толькі аднаго голасу.

На разгляд Камітэта быў пададзены шэраг іншых значных для рэспублікі прац. Але ў іх адзначаны недапрацоўкі. Спадзяёмся, што, прыняўшы да ўвагі вынікі абмеркавання прац і рэцэнзіі спецыялістаў, аўтары перапрацуюць іх і прадставяць нам у наступным годзе. Запрашаем усе вядучыя навуковыя і вытворчыя калектывы рэспублікі прыняць удзел у конкурсе на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у 1994 годзе. Працы прымаюцца да 1 лютага 1994 года. Умовы конкурсу будуць апублікаваны пазней.

**Л.М.СУШЧЭНЯ,**
старшыня Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі, акадэмік.

**В.А.ГАЛОЎЧЫЦ,**
адказны сакратар Камітэта, кандыдат біялагічных навук.

*Праблемны ракурс*

# Справа майстра баіцца. Але выгадаваць майстра сёння так няпроста!

**Радок аб вучобе ў Навагрудскім СПТВ-193 маюць у сваёй біяграфіі сотні і сотні калгасных спецыялістаў Гродзеншчыны. А ці лёгка сёння рыхтаваць класных вадзіцеляў, зваршчыкаў, слесараў, лабарантаў?**

— Праблем хапае, — дзеліцца думкамі намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчай рабоце Рыгор Поклад. — Галоўная з іх — недахоп грошай. Фінансаванне адстае ад росту цэн на ўсё неабходнае, самім зарабіць для навучэнцаў стала ўжо немагчымым. Раней прадпрыемствы дзяліліся з намі сякой-такой сыравінай, матэрыяламі, і групы зваршчыкаў выраблялі шмат чаго карыснага на продаж. А цяпер жа там усё ідзе на ўласную вытворчасць, абы не было прастояў. Сёй-той з хлопцаў прыходзіць на заняткі са сваімі электродамі, таму што майстар можа выдаць яму толькі тры штукі на сем гадзін работы. Але ёсць у нас такі чалавек — загадчык гаража Уладзімір Фёдаравіч Высоцкі, яго энтузіязм і заклапочанасць нас вельмі выручаюць. Чыста мужчынскім наша вучылішча не назавеш: нядаўна пачалі рыхтаваць повараў, а ў дзяўчат гэтая спецыяльнасць у вялікай пашане. Якасць навучання? Мяркуйце самі: 92 працэнты будучых вадзіцеляў здалі выпускны экзамен з першага заходу, а на абласных спаборніцтвах аратых наша каманда заняла другое месца.

❑ Прымерым робу зваршчыка...

❑ Практычныя заняткі ў трактарыстаў.

**Сяргей ГРЫЦ.**
**Фота аўтара.**



*Экспресс-интервью*

**Владимир ЗАБЛОЦКИЙ:**

## "Ценовой беспредел будет длиться долго"

Цены растут, жизненный уровень людей падает. Это видно невооруженным глазом. Но не мы здесь в парламенте решаем вопросы ценообразования. Мы идем вслед за Россией. У нас нет самостоятельной политики. Есть только боязнь попасть в немилость к великому соседу. А он не сможет нам продавать нефть и газ по низкой цене. Хотим мы того или не хотим, цены все равно выведены на мировой уровень. Неразумное стремление следовать за Россией приведет к плачевным результатам.

У нас разная структура экономики. В России она сориентирована на сырьевые отрасли. Беларусь, как говорят, сборочный цех. Им есть на что опереться. Мы просто вынуждены идти своим путем, опираться на качество труда.

Предложения, которые исходят от БНФ, парламентским большинством отвергаются. Депутаты голосуют не за благоразумие, а исходя из политических соображений.

У меня есть желание как-то поправить экономическое положение, предложить широкий набор решений для правительства. Но мои предложения не доходят до руководства республики. А если и доходят, то не касаются главного. Например, разделение финансов бюджета и предприятий, дальнейшее обеспечение права собственности и самой собственности. Ни в коем случае нельзя узаконивать коллективную форму собственности.

Стабилизации цен в ближайшее время не будет. Да и откуда она появится? Ведь не создаются условия для производства. По-прежнему налоговая и бюджетная политика не корректируется. Поэтому неоткуда взять средства для новых технологий.

Я не вижу объективных причин, чтобы жизнь улучшилась.

*Мы жывём на адной планеце*

## Дапамога патрабуе канкрэтнага адрасата

**"Беларускія дзеці змогуць атрымліваць эфектыўную дапамогу толькі ў тым выпадку, калі яна будзе ісці па канкрэтнаму адрасу і кантраляваецца", — заявілі карэспандэнту Белінфарма прадстаўнікі нямецкай групы падтрымкі пасля знаходжання ў дзіцячых садах і бальніцах Мінска.**

Арганізацыя, створаная ў нямецкім горадзе Хатынгене (зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія) год назад, неаднаразова пастаўляла ў рэспубліку медыкаменты і абсталяванне, выконвала самыя розныя заяўкі ўрачоў дзіцячых бальніц, радавала маленькіх пацыентаў цацкамі. Аднак пазітыўных змяненняў, на думку Ханса-Вернера Мерса і Монікі Фрытц, у дзіцячых медыцынскіх установах сталіцы не адбываецца. Медыкаменты і абсталяванне, што прысылаліся ў Мінск нямецкай групай падтрымкі, не сталі эфектыўнай крыніцай аздараўлення дзіцячай медыцыны.

— Мы не маем намеру адмаўляцца ад далейшай дапамогі хворым дзецям, — сказаў Ханс-Вернер Мерс. — Але цяпер будзем працаваць інакш. Мы вырашылі знайсці нейкі маленькі правінцыяльны гарадок або вёску і дапамагаць ім наладжваць нармальны быт і медыцынскае абслугоўванне ў цяжкіх эканамічных умовах, якія склаліся ў вашай дзяржаве. Прасцей кажучы, мы хацелі б стаць апекунамі канкрэтных дзяцей і дарослых, каб бачыць вынікі нашай працы. Каб можна было смела сказаць усім членам арганізацыі, што нашы намаганні патрэбны людзям.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ.**

*Дзяржава супраць асобы*

# Што ж вы нарабілі, міністры, калі ад вашых дзеянняў чалавеку хоць у пятлю лезь?

**Віктар ХАРОШКА**

На маладую, гадоў дваццаць пяць, жанчыну з двума маленькімі хлопчыкамі адразу звярнулі ўвагу, як толькі яна пераступіла парог магазіна. Непаседлівыя гарэзы паляцелі да паліц і прылаўкаў і кожны стаў патрабаваць пакупку. Аднаму спадабалася вялізная машына, што стаяла ў аддзеле цацак, другі круціўся каля аддзела, дзе вабілі да сябе цукеркі, жавальныя гумкі, шакаладкі. Разгубленая маці стала пасярод залы.

Але, паклікаўшы хлапчукоў, жанчына раптам заплакала. Зала разгубілася. І толькі дзеткі, вінавата спусціўшы вочкі долу, пайшлі да маці.

— Я ж вас прасіла, — узяла іх за рукі і павяла да выхаду.

Ніхто б і не зразумеў той роспачы, ад якой так зайшлося сэрца ў маці, каб не бабулька, што стрэлася сям'і ў праходзе.

— Ты што, Ганула? — стала яна на шляху жанчыны. — Супакойся. Зараз прыдумаем нешта.

Праз якую мінуту вакол бабулі сабраліся наведвальнікі магазіна.

— Трасца на іх, — моцна гучаў яе голас. — Сядзяць там у міністэрскіх крэслах, такія загады аддаюць, ад якіх чалавеку хоць у пятлю лезь.

І расказала пра нялёгкую долю Ганны.

Сямейнае жыццё ў яе не склалася. Пасля нараджэння двайнят, апанавала Ганну хвароба. Атрымала другую групу інваліднасці. Муж хутка сахаладнеў да яе, а потым і зусім заявіў: — Разыдземся мы, Ганна. Але не хвалюйся, на дзяцей аліменты прысылаць буду.

Першы перавод на тры з паловай тысячы рублёў, прыйшоў з Варкуты праз чатыры месяцы. Як ні цяжка было Ганне адной выхоўваць сыноў, старалася. Хаця якая там жытка ўтрох у наш час на такія грошы. Перабіваліся самым неабходным.

Але неўзабаве наступіў кастрычнік дзевяноста другога. І пахіснулася глеба пад нагамі Ганны. Пайшла на пошту за чарговым пераводам, а ёй у адказ:

— Аліментаў больш як тры тысячы у месяц не выдаём. Вось тэлеграма з Міністэрства сувязі. У вас жа цэтлік на тры з паловай тысячы рублёў. Адправім іх назад у Варкуту.

Так засталася Ганна з двума сваімі сынамі-трохгодкамі без рубля грошай. Колькі ні хадзіла на пошту, колькі ні ўгаворвала яе работнікаў, не дапамагло.

У той дзень, калі мы бачылі Ганну ў магазіне, пазычыла яна невялічкую суму ў суседзяў, хацела купіць хлеба і малака. Але дзеці сваімі паводзінамі (а як яшчэ павінны весці сябе яны!) развярэдзілі сэрца...

Са Светлагорска ў Мінск вяртаўся з жаданнем хутчэй дапамагчы Ганне. Збіраўся ісці ў міністэрства і прасіць аб нейкім для яе выключэнні. Але ход падзей прымусіў змяніць план дзеянняў.

Справа ў тым, што ў сваім горы Ганна засталася не адна. За тыдзень часу, што адсутнічаў у рэдакцыі, пошта прынесла дзесяткі лістоў з крыкам душы аб дапамозе. І ўсе яны з'явіліся пасля памянёнай тэлеграмы з Міністэрства сувязі.

Дык жа каб толькі скардзіліся на тое, што не выдаюць аліментаў.

З бабруйчанкай Анжэлікай Луканскай зусім нейкі цырк утварылі. Атрымала яна за чатыры месяцы адразу (мужу затрымлівалі зарплату) адным пераводам аліменты з Камчаткі — 13286 рублёў. За чэрвень, ліпень, жнівень і верасень, тыя месяцы, калі ў рэспубліцы на выдачу аліментаў і зарплаты з другіх краін СНД забароны не было. Думаеце нехта ўвайшоў у яе становішча? Калі б не так. Мала таго, што перавод адправілі назад, дык яшчэ вылічылі 10 працэнтаў з сумы за аказанне паслуг. Лічы з дзіцяці тыя 10 працэнтаў ўзялі.

Выпадак гэты таксама не адзінкавы.

І што ж у такім выпадку сказала наша Міністэрства сувязі?

Аказваецца, рашэнне аб абмежаванні выдачы паштовых пераводаў, зарплаты, аліментаў прадыктавана фінансавымі цяжкасцямі. Партнёры з Расіі, Украіны, Казахстана і іншых краін СНД не разлічыліся з Беларуссю па суме аплачаных пераводаў.

Але ці вінаваты ў гэтым Ганніны хлапчукі, і хіба яны павінны шукаць выхад, а не дзяржава і яе міністры?

P.S. Усведамляючы неардынарнасць сітуацыі, што склалася на пошце з разлікамі з кліентамі, мы звярнуліся за каментарыем да начальніка аддзела Міністэрства сувязі Валянціны Ігнатаўны Назаравай. Вось што яна, у прыватнасці, сказала:

— У сувязі з тым, што прыпыніліся ўзаемаразлікі краін СНД з Беларуссю за паштовыя паслугі, мы вымушаны былі пайсці на такі крок, як абмежаванне выдачы пераводаў, аліментаў і г.д. Як выхад са становішча нам прапаноўвалі ўзяць крэдыт у банку. Але пад 47 працэнтаў браць крэдыт для нас было б самагубствам. Не бярэ на сябе частку ўзаемаразлікаў і Нацыянальны банк Беларусі. Іх таксама зразумець можна, таму што гэты від паслуг не ўваходзіць у функцыі банка.

Зыходзячы са складанасці сітуацыі, мы ў тэрміновым парадку працуем над адкрыццём Сувязьбанка. Але адкрыць яго зможам не раней наступнага года.

Тым не менш хачу запэўніць грамадзян, што аліменты мы ўсё ж выплачваць будзем у поўным памеры. Для гэтага ёсць падставы. І перш за ўсё тое, што Расія абяцала ў самыя сціслыя тэрміны пагасіць частку доўгу. Вядуцца перамовы і з іншымі краінамі СНД.

*Спадчына*

# Святы вечар, добры вечар...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Эх, Каляды!.. Скінуць бы, здаецца, гадоў дваццаць з гакам — і назад, туды — у дзяцінства, у марозныя перадкалядныя вечары!..

Кажу "перадкалядныя", бо да самога свята трэба ж было яшчэ як след падрыхтавацца. І дарослым, і нам, хлапчукам. А мы з суседам Васілём Бабрыковічам штогод і спраўна "калядавалі". І таму:

*Хлапцам прыелася вучэба:*
*Цяпер Калядак чакаць трэба,*
*І думка іх не тым занята,*
*Усё болей ходзіць каля свята...*

І спраў у нас сапраўды многа. Па-першае, да свята трэба ж вывучыць новыя ці паўтарыць ужо вядомыя калядоўніцкія песні. Па-другое, саспявацца, каб не "рваць" мелодыю, не збівацца з рытму. Бо спявалі ж мы без усякага, як кажуць, акампанемента, браць трэба было толькі голасам, і голасам пранікнёным, з пачуццём.

Ну і, нарэшце, не грэх было загадзя правесці, як бы так мовіць, рэкагнасцыроўку на месцы: дамовіцца, па якой вуліцы, акрамя нашай, будзем калядаваць, пагаварыць з "канкурэнтамі", каб не вельмі залазілі ў нашу "зону" і г.д.

Апошняе рабілася з той нагоды, што ў нашым мнагалюдным Моталі і каляднікаў было многа, не хацелася замінаць адзін аднаму. Шмат, словам, спраў трэба было перарабіць да святых Каляд, каб сустрэць іх як след.

І вось нарэшце прыходзіў першы калядны дзень!.. Скажу шчыра: пачынаўся ён для мяне з адной невялікай і добрай зайздрасці. А справа ў тым, што па традыцыі першым у хату ў гэты ранак трэба каб прыйшоў мужчына. І хадзілі па хатах "поздароўляты" гаспадароў больш сталыя за нас хлопцы. Тут трэба было мець не толькі голас, але й пэўную смеласць, бо ўсё ж і спявалася, і гаварылася, і жадалася, гледзячы прама ў вочы людзям. Тут зманіць, сказаць нешта няшчыра было нельга. Затое і адорвалася ранішняе калядаванне адпаведна — толькі "белымі" капейкамі: ад дваццаткі і нават да рубля.

Але мы зайздрасцілі не грашам, а найперш — уменню больш дарослых хлопцаў так "поздароўляты" людзей, што ў хаце, здавалася, нават святлела ад добрых слоў, шчырых пажаданняў, абуджаных надзей. (Вельмі няпростая, скажу вам, навука. І, мне здаецца, амаль выбітая ў народзе за доўгія гады нацыянальнага забыцця. Хто мне не верыць — няхай паспрабуе шчыра, пранікнёна, не дзеля формы — "...и всего наилучшего" — павіншаваць з якім-небудзь святам хаця б сваіх добрых знаёмых. А што ж тады казаць пра незнаёмых людзей?..)

Вось чаму мы цанілі гэтую навуку. І стараліся вучыцца ёй сумленна — можа, і мы хутка так зможам? Хаця яшчэ ранавата, вось цераз год-другі...

Затое вечар быў наш!.. Весела смяецца ў марозным небе месяц, зіхацяць зоркі, рыпіць пад валёнкамі снег, адусюль нясецца пах каўбас і свежаніны, ярка-жоўтымі вачыма глядзяць на нас вокны хат... І сярод усяго гэтага — гукі песняў. О, на суседніх вуліцах ужо калядуюць! Пара і нам за добрую справу...

*Ой, святэе народжэнне*
*Божого сына —*
*Породыла Ісуса Хрыста*
*Дева Марыя.*
*Породыўшы і сповыўшы —*
*Лэгла спочываць.*
*Прылэтілы тры ангелы*
*Хрыста доглядать...*

Песня доўгая, з радасцю і жалем, яна на нашым палескім дыялекце і гучыць пранікнёна, неўпрыкметку ахоплівае нейкім непераказным пачуццём нашы хлапечыя сэрцы, і, здаецца, ужо не толькі нашы галасы выводзяць яе пад акном, але й уся істота...

*...Ой, зацвыло ўсяке дрэво*
*Шэ й стары квіты.*
*Дывовалыс стары людэ*
*Шэ й малы діты...*

Выходзіць гаспадар, "спасібочкае" за песню, дае нам наш калядны заробак. Гэта "жоўтыя" капейкі: звычайна "тройкі", "пятакі", а калі выпадзе "дзесятка" — гэта цэлае багацце!..

Але так — не ў кожнай хаце. У любой вёсцы ёсць людзі, якія і ў буднія дні, і ў святы жывуць неяк замкнёна, затоена ад людзей. Вось і хаты іхнія глядзяцца нават у калядную ноч неяк ваўкавата. Ды што зробіш, трэба ісці да ўсіх, бо надта ж прыказвала маці:"Да нэкого ж, сынок, нэ мынайте (не абмінайце), заходьтэ ў кожную хату..." І мы не мінаем. Але, адчуваючы, што вось тут усё роўна "адстукаюцца", г.зн. пастукаюць у акно, перабіваючы нашу песню, мы адразу пераходзім на гарэзлівы варыянт:

*Колядын, колядын —*
*Я ў батька одын.*
*Мэнэ батько послаў,*
*Каб я грошы збыраў.*
*Вынось коўбасу,*
*А то хату рострасу!..*

... Плыве над вёскаю марозная калядная ноч. Звініць песнямі, радаснымі галасамі і, здаецца, сама спявае — пра нешта добрае, чалавечае, святое...

І засынаеш ужо апоўначы, паклаўшы пад падушку калядны заробак — цэлую жменю сялянскіх медзякоў, стомлены і шчаслівы: добра пачаліся Каляды! А наперадзе ж яшчэ два тыдні свят!..

І яшчэ якіх свят! Праз тыдзень зноў збіралася калядная торбачка — прыходзіў "стары" Новы год, Шчодрык, Шчадруха. Да гэтых дзён і песні рыхтаваліся іншыя. Ды й плацілі каляднікам ужо не грашыма, а найбольш каўбасою, салам і г.д. І зноў плывуць над вёскаю песні, сярод іх і наша:

*Шчодрый вэчур,*
*Добрый вэчур,*
*Добрым людзям —*
*На здороўе.*
*А ў полы-полы*
*Плужок плывэ,*
*А за тым плужком —*
*Ілля святая...*
*Ой, знаю-знаю —*
*Господар дома.*
*Сэдыть собі ў кунцы стола,*
*А на ёму — шуба-люба,*
*А ў тый шубы — калыточка,*
*А ў тый калытцы — тры ўрожаі.*
*Зароды, Божэ, жыто-пшэныцу,*
*А нам, дядечко, хоть поляндвыцу...*

Ідуць, доўжацца аж да самага Крышчэння святыя калядныя дні і вечары. Святыя не таму, што царкоўныя, а таму, што нейкай спагадаю, святасцю і любасцю да ўсяго свайго, вясковага, народнага поўніліся людскія сэрцы, асабліва дзіцячыя.

Ды, на жаль, тыя святыя вечары калядавання хутка для нас скончыліся. Надта ж спяшаліся ў нашай краіне вывесці новую агульнасавецкую нацыю. І таму на наступны год перад Калядамі нашых бацькоў выклікалі ў школу і перадалі загад "зверху": "Каб ніхто з вучняў больш не калядаваў. Ды й вам, бацькі, трэба хутчэй забываць усякія старыя забабоны"...

З'явіліся на вуліцах і актывісты з чырвонымі павязкамі на рукавах...

Ды мы не здаваліся, употай калядаваць хадзілі. Але ўжо было нешта не тое, свята ў душы было быццам крадзенае, не сваё...

І зламалі-такі паступова дзіцячую волю і веру. Замест усяго гэтага адгрохалі на вёсцы Дом культуры, які ў калядныя вечары, на Вялікдзень, на Спаса грымеў шэйкам "назло рэлігіі" аж да ранку — гуляй, будучыя будаўнікі камунізму!

І будаўнікі загулялі. І ў нашай вёсцы, і ў суседніх. Ды так, што ніхто дагэтуль не ведае, як і чым іх утаймаваць.

Ды, здаецца, праходзіць спусташальная бура адрачэння ад сваіх каранёў. Нарэшце пазначылі Каляды святым днём, адраджаем забытыя свае традыцыі.

І добра, што скіравалі нарэшце ў гэты бок. Бо ісці прыйдзецца доўга. Многае страчана назаўсёды. І яго не вернеш нават выдатным веданнем мовы — нацыянальнае ў нашых сэрцах закладваецца змалку, потым навучыць яму цяжка, гэта трэба адчуць у дзяцінстве. У тую пару зярняты Бацькаўшчыны прымаюцца найлепей і назаўсёды. Вось і я, вучаны ўжо жыццём скептычны рэаліст, многае з таго, дзіцячага, успомніў.

І многае яшчэ ўспомню. Таму што такое не забываецца. І пры гэтым зусім не баюся паказацца ідэалістам у наскрозь матэрыяльны і дэфіцытны наш час. Не, справа тут у іншым. Тыя далёкія калядныя вечары жывуць і жыць будуць тым, што нараджалі ў кожным з нас такое пачуццё, калі, як сказаў паэт, "не злічыць у небе ясных зорак, не злічыць у сэрцы светлых дум..."

Свята было на душы. Святы вечар.

А без такога пачуцця — ці ж людзі мы?..

Народная газета

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў

У адпаведнасці з агульнымі прынцыпамі пенсіённага забеспячэння, змешчанымі ў Законе Рэспублікі Беларусь “Аб пенсіённым забеспячэнні”, і з улікам асаблівасцей ваеннай службы і службы ў органах унутраных спраў гэты Закон вызначае ўмовы, нормы і парадак пенсіённага забеспячэння на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ваеннаслужачых Узброеных Сіл, унутраных пагранічных войск і часцей Грамадзянскай абароны, Камітэта дзяржаўнай бяспекі і іншых воінскіх фарміраванняў, якія ствараюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, а таксама сем'яў гэтых ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу.

Прадугледжаныя гэтым Законам умовы, нормы і парадак пенсіённага забеспячэння распаўсюджваюцца таксама на ваеннаслужачых Узброеных Сіл, унутраных, пагранічных, чыгуначных войск, Камітэта дзяржаўнай бяспекі і іншых воінскіх фарміраванняў, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў былога Саюза ССР, Садружнасці Незалежных Дзяржаў і членаў іх сем'яў, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Віды пенсіённага забеспячэння**

Асобы афіцэрскага складу, прапаршчыкі, мічманы і ваеннаслужачыя, якія праходзяць службу па кантракту, асобы начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў пры наяўнасці ўстаноўленай гэтым Законам выслугі гадоў на ваеннай службе і на службе ў органах унутраных спраў маюць права на пажыццёвую пенсію за выслугу гадоў.

Ваеннаслужачыя, асобы начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія сталі інвалідамі пры ўмовах, прадугледжаных гэтым Законам, набываюць права на пенсію па інваліднасці.

У выпадку гібелі або смерці ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў іх сем'і маюць права на пенсію з выпадку страты карміцеля.

**Артыкул 2. Умовы пенсіённага забеспячэння**

Ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія маюць права на пенсіённае забеспячэнне, пенсіі ў адпаведнасці з гэтым Законам прызначаюцца і выплачваюцца пасля звальнення са службы.

Ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў пенсіі па інваліднасці, а іх сем'ям пенсіі з выпадку страты карміцеля прызначаюцца незалежна ад працягласці службы.

**Артыкул 3. Асобы, якія маюць права на пенсіі нараўне з ваеннаслужачымі тэрміновай службы і іх сем'ямі**

Умовы, нормы і парадак пенсіённага забеспячэння, устаноўленыя гэтым Законам для ваеннаслужачых тэрміновай службы і іх сем'яў, адпаведна адносяцца таксама (калі не агаворана іншае) да:

а) партызан і іх сем'яў (акрамя ўказаных у артыкуле 4 гэтага Закона);

б) рабочых і служачых адпаведных катэгорый, што вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, якія працавалі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў раёнах ваенных дзеянняў (на прыфрантавых участках чыгунак, на збудаванні абарончых рубяжоў, ваенна-марскіх баз, аэрадромаў і іншае), і іх сем'яў;

в) грамадзян, якія знаходзіліся ў складзе знішчальных батальёнаў, узводаў і атрадаў абароны народа, і іх сем'яў;

г) ваеннаабавязаных, прызваных на вучэбныя, спецыяльныя або паверачныя зборы, і іх сем'яў;

д) работнікаў ваенізаванай аховы, якія не падлягаюць дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, асоб малодшага начальніцкага і радавога складу службы спецыяльнай сувязі Міністэрства сувязі былога СССР і іх сем'яў.

**Артыкул 4. Асобы, якія маюць права на пенсіі нараўне з афіцэрскім складам, ваеннаслужачымі, што праходзяць службу па кантракту, і іх сем'ямі**

На падставах, устаноўленых гэтым Законам для асоб афіцэрскага складу і іх сем'яў, ажыццяўляецца таксама пенсіённае забеспячэнне асоб, якія займалі камандныя пасады, адпаведныя пасадам афіцэрскага складу, у партызанскіх атрадах і злучэннях, і іх сем'яў.

На падставах, устаноўленых гэтым Законам для ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, і іх сем'яў, ажыццяўляецца таксама пенсіённае забеспячэнне жанчын, прынятых у добраахвотным парадку на абавязковую ваенную службу на пасады салдат, матросаў, сяржантаў і старшын, і іх сем'яў.

**Артыкул 5. Пенсіённае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў іншых дзяржаў і іх сем'яў**

Пенсіённае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў дзяржаў, з якімі Рэспублікай Беларусь заключаны дагаворы (пагадненні) аб сацыяльным забеспячэнні, а таксама сем'яў указаных катэгорый ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу ажыццяўляецца ў парадку, прадугледжаным гэтымі дагаворамі (пагадненнямі).

**Артыкул 6. Пенсіі асобам, пацярпеўшым ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС**

Пенсіённае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія ўдзельнічалі ў ліквідацыі вынікаў або пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы або аварый на іншых атамных аб'ектах грамадзянскага ці ваеннага прызначэння, або ў выніку выпрабаванняў, вучэнняў і іншых работ, звязаных з любымі відамі ядзерных установак, і членам сем'яў гэтых ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў ажыццяўляецца з улікам умоў і норм, прадугледжаных Законам Рэспублікі Беларусь “Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльской АЭС”.

**Артыкул 7. Прызначэнне пенсій ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям на падставах, устаноўленых Законам Рэспублікі Беларусь “Аб пенсіённым забеспячэнні”**

Асобам афіцэрскага складу, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям могуць (па іх жаданню) прызначацца пенсіі на ўмовах і па нормах, устаноўленых Законам Рэспублікі Беларусь “Аб пенсіённым забеспячэнні”. Пры гэтым нараўне з заработнай платай пры вылічэнні ім пенсій улічваюцца ўсе віды грашовага забеспячэння, якое атрымліваецца гэтымі ваеннаслужачымі, асобамі начальніцкага і радавога складу перад звальненнем са службы.

**Артыкул 8. Пенсіі сем'ям памёршых пенсіянераў**

Сем'і памёршых пенсіянераў з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў маюць права на пенсію з выпадку страты карміцеля на агульных падставах з сем'ямі ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў.

**Артыкул 9. Права выбару пенсіі**

Ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям, якія маюць адначасова права на розныя дзяржаўныя пенсіі, прызначаецца адна пенсія па іх выбару.

**Артыкул 10. Сродкі на выплату пенсій. Вызваленне пенсій ад падаткаў**

Выплата пенсій асобам афіцэрскага складу, прапаршчыкам, мічманам, ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям забяспечваецца дзяржавай за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь, а ваеннаслужачым тэрміновай службы і іх сем'ям — за кошт сродкаў фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Пенсіі, прызначаныя ў адпаведнасці з гэтым Законам, не падлягаюць абкладанню падаткамі.

**Артыкул 11. Выплата дапамог**

Ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія звальняюцца са службы, сем'ям адпаведных катэгорый ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і пенсіянераў з ліку ваеннаслужачых і асоб начальніцкага і радавога складу, страціўшым карміцеля, выплачваюцца дапамогі ў парадку і памерах, якія вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Органы, якія ажыццяўляюць пенсіённае забеспячэнне**

Пенсіённае забеспячэнне ваеннаслужачых тэрміновай службы і іх сем'яў у адпаведнасці з гэтым Законам ажыццяўляецца органамі сацыяльнага забеспячэння. У такім жа парадку ажыццяўляецца пенсіённае забеспячэнне асоб афіцэрскага складу, прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'яў пры прызначэнні ім пенсій на ўмовах і па нормах, устаноўленых Законам Рэспублікі Беларусь “Аб пенсіённым забеспячэнні” (артыкул 7 і частка першая артыкула 25 гэтага Закона).

Пенсіённае забеспячэнне асоб афіцэрскага складу, прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'яў па гэтаму Закону ажыццяўляецца Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам унутраных спраў Рэспублікі Беларусь і Камітэтам дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь у парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Прымяняльна да парадку, прадугледжанага гэтым артыкулам, ажыццяўляецца пенсіённае забеспячэнне таксама адпаведных катэгорый ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў былога Саюза ССР, іншых дзяржаў і іх сем'яў.

**Артыкул 13. Пытанні, якія адносяцца да ведання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Да ведання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь акрамя пытанняў, прадугледжаных у гэтым Законе, адносяцца таксама пытанні, звязаныя з парадкам прызначэння і выплаты пенсій, вызначэннем асаблівасцей вылічэння выслугі гадоў асобных катэгорый ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, з захаваннем гарантый, прадугледжаных гэтым Законам.

## РАЗДЗЕЛ II. ПЕНСІІ ЗА ВЫСЛУГУ ГАДОЎ

**Артыкул 14. Умовы прызначэння пенсій**

Права на пенсію за выслугу гадоў маюць:

а) асобы афіцэрскага складу, прапаршчыкі, мічманы і ваеннаслужачыя, якія праходзяць службу па кантракту, асобы начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія маюць на дзень звальнення са службы выслугу на ваеннай службе або на службе ў органах унутраных спраў 20 гадоў і больш;

б) асобы афіцэрскага складу і асобы сярэдняга, старшага і вышэйшага начальніцкага складу органаў унутраных спраў, звольненыя са службы па ўзросту, хваробе, скарачэнню штатаў або абмежаванаму стану здароўя і дасягнуўшыя на дзень звальнення 45-гадовага ўзросту, маючыя агульны працоўны стаж 25 каляндарных гадоў і больш, з якіх не менш 12 гадоў 6 месяцаў складае ваенная служба і служба ў органах унутраных спраў.

**Артыкул 15. Размеры пенсій**

Пенсіі за выслугу гадоў прызначаюцца ў наступных размерах:

а) асобам афіцэрскага складу, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія маюць выслугу 20 гадоў і больш (пункт “а” артыкула 14): за выслугу 20 гадоў — 50 працэнтаў, а звольненым у адстаўку па ўзросту або хваробе — 60 працэнтаў адпаведных сум грашовага забеспячэння (артыкул 42): за кожны год выслугі звыш 20 гадоў — 3 працэнты адпаведных сум грашовага забеспячэння, але ўсяго не больш 75 працэнтаў гэтых сум;

б) асобам афіцэрскага складу і асобам сярэдняга, старшага і вышэйшага начальніцкага складу органаў унутраных спраў, якія маюць агульны працоўны стаж 25 каляндарных гадоў і больш, з якіх не менш 12 гадоў 6 месяцаў складае ваенная служба або служба ў органах унутраных спраў (пункт “б” артыкула 14), за агульны працоўны стаж 25 гадоў — 50 працэнтаў і за кожны год стажу звыш 25 гадоў — 1 працэнт адпаведных сум грашовага забеспячэння (артыкул 42);

в) асобам, указаным у пунктах “а” і “б” гэтага артыкула, размер вылічэння пенсіі за выслугу гадоў павялічваецца: тым, хто ўдзельнічаў у ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у перыяд з 26 красавіка па 31 мая 1986 года — на 15 працэнтаў; з 1 чэрвеня па 31 снежня 1986 года — на 10 працэнтаў; у 1987 — 1989 гадах не менш 20 сутак, а таксама праслужыў у зонах першачарговага адсялення і наступнага адсялення не менш трох гадоў — на 5 працэнтаў;

г) пенсіянерам з ліку асоб афіцэрскага складу, прапаршчыкаў, мічманаў, ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту, што дае права на атрыманне пенсіі па ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў), і атрымліваюць пенсію за выслугу гадоў, якія працавалі пасля звальнення з ваеннай службы на прадпрыемствах, у арганізацыях, ва ўстановах народнай гаспадаркі, за кожны год працоўнага стажу (з моманту звальнення да дня дасягнення пенсіённага ўзросту) — 1 працэнт грашовага забеспячэння (артыкул 42), але ўсяго не больш 75 працэнтаў адпаведных сум грашовага забеспячэння.

**Артыкул 16. Мінімальны размер пенсій**

Пенсіі за выслугу гадоў, якія прызначаюцца ў адпаведнасці з гэтым Законам, не могуць быць ніжэй 150 працэнтаў устаноўленага заканадаўствам мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 17. Надбаўкі да пенсіі за выслугу гадоў**

Да пенсіі за выслугу гадоў, якая прызначаецца асобам афіцэрскага складу, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў (у тым ліку да вылічанай у мінімальным размеры), налічваюцца надбаўкі на догляд:

інвалідам I групы — 100 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту;

пенсіянерам, дасягнуўшым 80-гадовага ўзросту, а таксама іншым адзінокім пенсіянерам, якія маюць патрэбу па заключэнню медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій або ўрачэбнакансультацыйных камісій у пастаяннай пабочнай дапамозе, — 50 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту.

Пры наяўнасці права на надбаўку на догляд на розных падставах, прадугледжаных у гэтым артыкуле, надбаўка налічваецца па адной з указаных падстаў.

**Артыкул 18. Вылічэнне выслугі гадоў на пенсію**

Парадак вылічэння выслугі гадоў для прызначэння пенсій у адпаведнасці з пунктам “а” артыкула 14 гэтага Закона афіцэрам, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь з захаваннем наступнага:

а) у выслугу гадоў для прызначэння пенсій залічваюцца абавязковая ваенная служба, служба ў органах унутраных спраў на пасадах начальніцкага і радавога складу, служба ў партызанскіх атрадах і злучэннях, час работы ў грамадзянскіх міністэрствах, ведамствах, установах і арганізацыях з пакіданнем на абавязковай ваеннай службе або ў кадрах органаў унутраных спраў, час знаходжання ў палоне, калі паланенне не было добраахвотным і ваеннаслужачы, знаходзячыся ў палоне, не ўчыніў злачынства супраць Радзімы, час утрымання пад вартай і адбывання пакарання ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, неабгрунтавана прыцягнутых да крымінальнай адказнасці або рэпрэсіраваных і ў далейшым рэабілітаваных;

б) перыяды праходжання службы пры асаблівых абставінах (пры вядзенні баявых дзеянняў і ў іншых экстрэмальных сітуацыях, на лётнай рабоце, на падводных лодках, ва ўмовах павышанай радыяцыі, у паветрана-дэсантных войсках, у аддаленых раёнах і мясцовасцях з неспрыяльнымі ўмовамі, пры выкананні спецыяльных заданняў і іншае) залічваюцца ў выслугу гадоў для прызначэння пенсій на адпаведных ільготных умовах. Пры гэтым перыяды службы пры асаблівых абставінах да ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона залічваюцца ў выслугу гадоў на адпаведных ільготных умовах, устаноўленых заканадаўствам былога Саюза ССР;

в) нараўне са службай у воінскіх фарміраваннях і органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь у выслугу гадоў для прызначэння пенсій залічваецца таксама служба (у тым ліку на адпаведных ільготных умовах) у воінскіх фарміраваннях і органах унутраных спраў былога Саюза ССР і дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў;

г) пры вылічэнні выслугі гадоў для прызначэння пенсій адпаведным катэгорыям ваеннаслужачых, якія праходзілі службу за межамі Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі іншых дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, нараўне з ільготнымі ўмовамі залічэння службы ў выслугу гадоў на пенсію, устаноўленымі заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, прымяняюцца таксама льготныя ўмовы залічэння ў выслугу гадоў іх службы за мяжой у аддаленых, высакагорных мясцовасцях і мясцовасцях з неспрыяльнымі ўмовамі, устаноўленыя заканадаўствам дзяржаў, на тэрыторыі якіх яны праходзілі службу;

д) выслуга гадоў для прызначэння пенсій, вылічаная ў адпаведнасці з заканадаўствам, якое дзейнічала раней, з увядзеннем у дзеянне гэтага Закона і ў далейшым пры аднаўленні выплаты пенсіі пераразліку ў бок змяншэння не падлягае.

## РАЗДЗЕЛ III. ПЕНСІІ ПА ІНВАЛІДНАСЦІ

**Артыкул 19. Умовы прызначэння пенсій**

Пенсіі па інваліднасці прызначаюцца ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія сталі інвалідамі, калі інваліднасць наступіла ў перыяд праходжання імі службы ці не пазней трох месяцаў пасля звальнення са службы або калі інваліднасць наступіла пазней гэтага тэрміну, але з прычыны ранення, кантузіі, калецтва або захворвання, што мелі месца ў перыяд праходжання службы.

**Артыкул 20. Устанаўленне інваліднасці**

Групы і прычыны інваліднасці, а таксама час яе наступлення ўстанаўліваюцца медыка-рэабілітацыйнымі экспертнымі камісіямі, што дзейнічаюць на падставе Палажэння аб іх, якое зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У залежнасці ад ступені страты працаздольнасці інваліды падраздзяляюцца на тры групы.

**Артыкул 21. Прычыны інваліднасці**

У залежнасці ад прычыны інваліднасці інваліды з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў падраздзяляюцца на наступныя катэгорыі:

а) інваліды вайны (інваліды з прычыны ваеннай траўмы) — пры наступленні інваліднасці з прычыны ранення, кантузіі або калецтва, атрыманых пры абароне краіны або пры выкананні іншых абавязкаў ваеннай службы (службовых абавязкаў), або захворвання, непасрэдна звязанага са спецыфікай нясення ваеннай службы (па пераліку, што зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь) або са знаходжаннем на фронце, а таксама пры выкананні воінскага і службовага абавязку за мяжой у перыяд лакальных войнаў і канфліктаў. Да ліку інвалідаў вайны адносяцца таксама былыя ваеннаслужачыя, якія сталі інвалідамі з прычыны ранення, кантузіі, калецтва або захворвання, што мелі месца ў час знаходжання іх у палоне (пры захаванні ўмовы, ўказанай у пункце “а” артыкула 18);

б) іншыя інваліды з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў (інваліды з прычыны захворвання, атрыманага ў перыяд ваеннай службы) — пры наступленні інваліднасці з прычыны калецтва, атрыманага ў выніку няшчаснага выпадку, не звязанага з выкананнем абавязкаў ваеннай службы (службовых абавязкаў), або захворвання, не звязанага са знаходжаннем на фронце або выкананнем воінскага і службовага абавязку за мяжой у перыяд лакальных войнаў і канфліктаў.

**Артыкул 22. Размеры пенсій**

Пенсіі па інваліднасці ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў прызначаюцца ў наступных размерах:

інвалідам I групы — 75 працэнтаў, інвалідам II групы — 65 працэнтаў, інвалідам III групы — 40 працэнтаў заработку (сумы грашовага забеспячэння (артыкул 42).

**Артыкул 23. Мінімальныя размеры пенсій**

Мінімальныя размеры пенсій па інваліднасці ўстанаўліваюцца:

інвалідам з ліку салдат і матросаў тэрміновай службы I і II груп — у размеры 100 працэнтаў, III групы — 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

інвалідам з ліку сяржантаў, старшын, яфрэйтараў і старшых матросаў тэрміновай службы — у размеры 110 працэнтаў, інвалідам з ліку прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, асоб малодшага начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў — 120 працэнтаў, а інвалідам з ліку афіцэрскага складу і асоб начальніцкага складу (акрамя малодшага) органаў унутраных спраў — 130 працэнтаў адпаведных мінімальных размераў пенсій, прадугледжаных гэтым артыкулам для інвалідаў з ліку салдат і матросаў тэрміновай службы.

**Артыкул 24. Надбаўкі да пенсіі па інваліднасці**

Да пенсіі па інваліднасці ўстанаўліваецца надбаўка на догляд:

інвалідам I групы — 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

іншым адзінокім інвалідам, якія маюць патрэбу па заключэнню медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі або ўрачэбна-кансультацыйнай камісіі ў пастаяннай пабочнай дапамозе, а таксама інвалідам, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, — 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

Пры наяўнасці права на надбаўку на догляд на розных падставах, прадугледжаных у гэтым артыкуле, надбаўка налічваецца па адной з указаных падстаў.

**Артыкул 25. Прызначэнне пенсіі па інваліднасці ў размеры пенсій па ўзросту або за выслугу гадоў**

Інвалідам I і II груп з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія маюць працоўны стаж, неабходны для прызначэння пенсіі па ўзросту, устаноўлены Законам Рэспублікі Беларусь “Аб пенсіённым забеспячэнні” (у тым ліку на льготных умовах), пенсія па інваліднасці можа прызначацца ў размеры пенсіі па ўзросту, прадугледжанай гэтым Законам пры адпаведным стажы работы.

Пры наяўнасці ў інвалідаў I і II груп з ліку асоб афіцэрскага складу, прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў выслугі, неабходнай для прызначэння пенсіі за выслугу гадоў (пункт “а” артыкула 14), пенсія па інваліднасці можа прызначацца ім у размеры пенсіі за выслугу гадоў пры адпаведнай выслузе.

**Артыкул 26. Тэрміны прызначэння і выплаты пенсіі па інваліднасці**

Пенсія па інваліднасці ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў прызначаецца на ўвесь час інваліднасці, устаноўленай медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіяй, а інвалідам — мужчынам старэйшым за 55 гадоў і жанчынам старэйшым за 50 гадоў — пажыццёва з пераглядамі гэтых інвалідаў толькі па іх заяве.

У выпадку прызнання пенсіянера, які не дасягнуў указанага ў гэтым артыкуле ўзросту, працаздольным пенсія выплачваецца яму да канца месяца, у якім ён прызнаны працаздольным, але не далей чым да дня, па які ўстаноўлена інваліднасць.

**Артыкул 27. Пераразлік пенсіі пры змяненні групы інваліднасці**

Са змяненнем групы інваліднасці, якое адбылося пасля прызначэння пенсіі, адпаведна змяняецца і размер пенсіі, прызначанай у адпаведнасці з гэтым Законам.

**Артыкул 28. Умовы аднаўлення выплаты пенсіі пры перапынках у інваліднасці**

Пры пропуску інвалідам з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў тэрміну пераагляду ў медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі выплата яму пенсіі прыпыняецца, а ў выпадку прызнання яго зноў інвалідам — аднаўляецца з дня прыпынення, але не больш чым за адзін месяц да дня пераагляду.

У выпадку пропуску інвалідам тэрміну пераагляду па ўважлівай прычыне выплата яму пенсіі праводзіцца з дня прыпынення выплаты да дня пераагляду, але не больш чым за 3 гады, калі медыка-рэабілітацыйная экспертная камісія прызнае яго за гэты перыяд інвалідам. Пры гэтым калі пры пераглядзе інвалід пераведзены ў іншую групу інваліднасці (больш высокую або больш нізкую), то пенсія за ўказаны час выплачваецца па ранейшай групе.

## РАЗДЗЕЛ IV. ПЕНСІІ З ВЫПАДКУ СТРАТЫ КАРМІЦЕЛЯ

**Артыкул 29. Умовы прызначэння пенсій**

Пенсіі з выпадку страты карміцеля сем'ям ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў прызначаюцца, калі карміцель памёр у перыяд праходжання службы, або не пазней трох месяцаў з дня звальнення са службы, ці пазней гэтага тэрміну, але з прычыны ранення, кантузіі, калецтва або захворвання, што мелі месца ў перыяд праходжання службы, а сем'ям пенсіянераў з ліку гэтых ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу — калі карміцель памёр у перыяд атрымання пенсіі або не пазней 5 гадоў пасля спынення выплаты пенсіі. Пры гэтым сем'і ўказаных ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, памёршых у час знаходжання ў палоне (пры захаванні ўмовы, указанай у пункце “а” артыкула 18), і сем'і гэтых асоб, прапаўшых без вестак у перыяд ваенных дзеянняў, прыраўноўваюцца да сем'яў загінуўшых на фронце.

**Артыкул 30. Члены сям'і, якія маюць права на пенсію**

Права на пенсію з выпадку страты карміцеля маюць непрацаздольныя члены сям'і памёршых (загінуўшых) ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія знаходзіліся на іх утрыманні (артыкул 32).

Незалежна ад знаходжання на ўтрыманні карміцеля пенсія прызначаецца: непрацаздольным дзецям; непрацаздольным бацькам і мужу (жонцы), калі яны пасля смерці карміцеля страцілі крыніцу сродкаў да існавання; непрацаздольным бацькам і мужу (жонцы) ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу, памёршых у выніку прычын, указаных у пункце “а” артыкула 21 гэтага Закона; мужу (жонцы), аднаму з бацькоў або іншаму члену сям'і, указаным у пункце “в” часткі трэцяй гэтага артыкула.

Пры вызначэнні права на пенсію непрацаздольнымі членамі сям'і лічацца:

а) дзеці (у тым ліку ўсыноўленыя, пасынкі і падчарыцы), браты, сёстры і ўнукі, якія не дасягнулі 18 гадоў або старэйшыя за гэты ўзрост, калі яны сталі інвалідамі да дасягнення 18 гадоў, а тыя, хто праходзіць навучанне ў вочных навучальных установах (акрамя навучальных устаноў, навучэнцы якіх лічацца знаходзячыміся на абавязковай ваеннай службе або на службе ў органах унутраных спраў) — да заканчэння гэтых навучальных устаноў, але не далей чым да дасягнення імі 23-гадовага ўзросту. Пры гэтым браты, сёстры і ўнукі права на пенсію маюць, калі ў іх няма працаздольных бацькоў, а пасынак і падчарыца — калі яны не атрымлівалі аліментаў ад бацькоў;

б) бацька, маці (усынавіцелі), муж і жонка, калі яны дасягнулі пенсіённага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў) ці з'яўляюцца інвалідамі;

в) муж (жонка) або адзін з бацькоў ці дзед, бабка, брат або сястра незалежна ад узросту і працаздольнасці, калі ён (яна) заняты доглядам за дзецьмі, братамі, сёстрамі або ўнукамі памёршага карміцеля, якія не дасягнулі 8-гадовага ўзросту, і не працуе (з улікам часткі першай артыкула 31);

г) дзед і бабка — пры адсутнасці асоб, якія па закону абавязаны іх утрымліваць;

д) айчым, мачаха, калі яны дасягнулі пенсіённага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў) або з'яўляюцца інвалідамі, — пры ўмове, калі выхоўвалі або ўтрымлівалі памёршага пасынка або падчарыцу не менш 5 гадоў.

Усе правілы гэтага Закона, якія датычацца сем'яў памёршых, адпаведна распаўсюджваюцца і на сем'і адсутных без вестак, калі адсутнасць без вестак карміцеля засведчана ва ўстаноўленым парадку.

**Артыкул 31. Права на пенсію на льготных умовах**

Жонкі ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, загінуўшых пры выкананні абавязкаў ваеннай службы або памёршых у выніку прычын, указаных у пункце “а” артыкула 21 гэтага Закона, занятыя доглядам за дзецьмі загінуўшых (памёршых), якія не дасягнулі 8-гадовага ўзросту, маюць права на пенсію з выпадку страты карміцеля незалежна ад узросту і працаздольнасці і незалежна ад таго, працуе жонка ці не.

Мацерам і не ўступіўшым у другі шлюб жонкам ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, загінуўшых (памёршых) з прычыны ранення, кантузіі, калецтва або захворвання, атрыманых пры выкананні воінскага і службовага абавязку за мяжой у перыяд лакальных войнаў і канфліктаў, пенсія з выпадку страты карміцеля прызначаецца па дасягненні імі 50-гадовага ўзросту.

**Артыкул 32. Члены сям'і, якія лічацца ўтрыманцамі**

Члены сям'і памёршага лічацца знаходзіўшыміся на яго ўтрыманні, калі яны былі на яго поўным утрыманні або атрымлівалі ад яго дапамогу, якая была для іх пастаяннай і асноўнай крыніцай сродкаў да існавання.

Члены сям'і памёршага, якія знаходзіліся на яго ўтрыманні і самі атрымлівалі якую-небудзь пенсію, маюць права перайсці на новую пенсію.

**Артыкул 33. Выплата пенсіі з выпадку страты карміцеля дзецям, якія знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні**

Дзецям, якія страцілі абодвух бацькоў (круглым сіротам), а таксама дзецям памёршай адзінокай маці ў перыяд знаходжання іх на поўным дзяржаўным утрыманні выплачваецца 50 працэнтаў пенсіі, а іншым дзецям, якія знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні, — 25 працэнтаў пенсіі.

**Артыкул 34. Захаванне пенсіі пры ўступленні ў новы шлюб**

Пенсія з выпадку страты карміцеля, прызначаная непрацаздольнаму мужу (жонцы) (пункт “б” часткі трэцяй артыкула 30), захоўваецца таксама і пры ўступленні пенсіянера ў новы шлюб.

**Артыкул 35. Права на пенсію ўсыноўленых**

Непаўналетнія, якія маюць права на пенсію з выпадку страты карміцеля, захоўваюць гэта права таксама і пры іх усынаўленні.

**Артыкул 36. Размеры пенсій**

Пенсіі з выпадку страты карміцеля прызначаюцца ў наступных размерах:

а) сем'ям ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, загінуўшых пры выкананні абавязкаў ваеннай службы або памёршых у выніку прычын, указаных у пункце “а” артыкула 21 гэтага Закона, — 40 працэнтаў заработку карміцеля на кожнага непрацаздольнага члена сям'і. У такім жа размеры прызначаюцца пенсіі незалежна ад прычыны смерці карміцеля сем'ям памёршых пенсіянераў, якія з'яўляліся на дзень смерці інвалідамі вайны (пункт “а” артыкула 21), і на дзяцей, што страцілі абодвух бацькоў (круглых сірот), або дзецям памёршай адзінокай маці;

б) сем'ям ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, памёршых у выніку прычын, указаных у пункце “б” артыкула 21 гэтага Закона, — 30 працэнтаў заработку карміцеля на кожнага непрацаздольнага члена сям'і.

**Артыкул 37. Мінімальныя размеры пенсій**

Пенсіі з выпадку страты карміцеля, якія прызначаюцца сем'ям ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, у разліку на кожнага непрацаздольнага члена сям'і не могуць быць ніжэй:

а) пры вылічэнні пенсій у адпаведнасці з пунктам “а” артыкула 36 гэтага Закона: для сем'яў салдат і матросаў тэрміновай службы —120 працэнтаў, для сем'яў сяржантаў, старшын, яфрэйтараў і старшых матросаў тэрміновай службы — 130 працэнтаў, для сем'яў прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, малодшага начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў — 150 працэнтаў, а для сем'яў афіцэрскага складу і асоб начальніцкага складу (акрамя малодшага) органаў унутраных спраў — 180 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

б) пры вылічэнні пенсій у адпаведнасці з пунктам “б” артыкула 36 гэтага Закона — 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

На дзяцей, якія страцілі абодвух бацькоў (круглых сірот), або дзяцей памёршай адзінокай маці пенсія на кожнае дзіця не можа быць менш двухразовага мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 38. Перыяд, на які прызначаецца пенсія**

Пенсія з выпадку страты карміцеля ўстанаўліваецца на ўвесь перыяд, на працягу якога член сям'і памёршага лічыцца непрацаздольным (артыкул 30), а членам сям'і, якія дасягнулі ўзросту: мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў, — пажыццёва.

**Артыкул 39. Прызначэнне пенсіі на кожнага непрацаздольнага члена сям'і**

Пенсія з выпадку страты карміцеля прызначаецца на кожнага непрацаздольнага члена сям'і, які мае права на пенсію (артыкул 30).

Па жаданню членаў сям'і ім можа быць прызначана адна агульная пенсія.

**Артыкул 40. Змяненне размеру пенсіі і спыненне яе выплаты**

Калі ў складзе сям'і, якой была прызначана пенсія з выпадку страты карміцеля, адбудзецца змяненне, у выніку якога асобныя члены сям'і або сям'я ў цэлым страцяць права на пенсію, пераразлік пенсіі або спыненне яе выплаты праводзяцца з першага чысла месяца, які ідзе за тым месяцам, у якім адбылося змяненне.

**Артыкул 41. Парадак і тэрміны ўстанаўлення інваліднасці членам сям'і**

На членаў сям'і, якія з'яўляюцца інвалідамі, распаўсюджваюцца правілы аб парадку і тэрмінах устанаўлення інваліднасці і выплаце пенсіі пры перапынках у аглядзе ў медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі, прадугледжаныя артыкуламі 20, 26 і 28 гэтага Закона.

## РАЗДЗЕЛ V. ВЫЛІЧЭННЕ ПЕНСІЙ

**Артыкул 42. Заработак (грашовае забеспячэнне) для вылічэння пенсій**

Пенсіі, якія прызначаюцца ў адпаведнасці з гэтым Законам ваеннаслужачым тэрміновай службы і іх сем'ям, вылічваюцца па ўстаноўленых нормах у працэнтах да сярэднямесячнага заработку, які атрымлівалі ваеннаслужачыя да прызыву на ваенную службу або пасля звальнення з ваеннай службы да звароту за пенсіяй, ці да сярэднямесячнага грашовага забеспячэння, што атрымліваюць ваеннаслужачыя ў перыяд праходжання ваеннай службы па кантракту. Пры гэтым сярэднямесячны заработак (грашовае забеспячэнне) для вылічэння ім пенсій вызначаецца ў парадку, устаноўленым Законам Рэспублікі Беларусь “Аб пенсіённым забеспячэнні”.

(Заканчэнне на 4-й стар.)

# Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

Ваеннаслужачым тэрміновай службы, якія не працавалі да прызыву на ваенную службу і не працуюць пасля звальнення з ваеннай службы, не знаходзіліся на ваеннай службе па кантракту, і іх сем'ям пенсіі ўстанаўліваюцца ў мінімальных размерах, прадугледжаных адпаведна артыкуламі 23 і 37 гэтага Закона.

Пенсіі асобам афіцэрскага складу, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям вылічваюцца з грашовага забеспячэння гэтых ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу. Пры гэтым для вылічэння ім пенсій улічваюцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, адпаведныя аклады па штатнай або апошняй займаемай пасадзе, аклады па воінскаму або спецыяльнаму званню, працэнтная надбаўка за выслугу гадоў (бесперапынную службу або работу), грашовая кампенсацыя ўзамен харчовага пайка, уключаючы выплаты, звязаныя з індэксацыяй грашовага забеспячэння.

Указанае грашовае забеспячэнне ў частцы, якая не перавышае 10-разовага размеру мінімальнай заработнай платы, улічваецца пры вылічэнні пенсіі поўнасцю, а астатняя яго частка — у размеры 50 працэнтаў.

Пры вылічэнні сумы грашовага забеспячэння і ўстанаўленні пенсіі дробная частка грашовай адзінкі менш паловы не ўлічваецца, а больш паловы акругляецца ў большы бок.

**Артыкул 43. Пераразлік пенсій у сувязі з павелічэннем мінімальнай заработнай платы**

Мінімальныя размеры пенсій, якія прызначаюцца ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям, надбаўкі да гэтых пенсій, што вызначаюцца зыходзячы з мінімальнай пенсіі па ўзросту (заработнай платы), а таксама гранічныя размеры заработку (грашовага забеспячэння), які ўлічваецца для вылічэння пенсій ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям, павышаюцца адначасова з павелічэннем мінімальнай пенсіі па ўзросту (заработнай платы).

**Артыкул 44. Вылічэнне пенсій сем'ям пенсіянераў**

Сем'ям пенсіянераў з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў пенсіі з выпадку страты карміцеля вылічваюцца з таго ж заработку (грашовага забеспячэння), з якога была вылічана (пералічана) ці падлягала пераразліку пенсія самому карміцелю.

**Артыкул 45. Павышэнне пенсій**

Пенсіі, прызначаныя ў адпаведнасці з гэтым Законам, павышаюцца:

а) Героям Савецкага Саюза, асобам, узнагароджаным ордэнамі Славы 3-х ступеняў, — на 150 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

б) інвалідам вайны I і II груп — на 150 працэнтаў, інвалідам вайны III групы — на 75 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту:

ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія праходзілі службу ў складзе дзеючай арміі, партызанскіх атрадах і злучэннях або якія прымалі ўдзел у баявых дзеяннях па рашэнню дзяржаўных органаў былога Саюза ССР ці Рэспублікі Беларусь, — на 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам з ліку вольнанаёмнага складу, якія праходзілі службу або працавалі ў складзе дзеючай арміі, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам, якія працавалі ў перыяд блакады горада Ленінграда на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях горада, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

вязням фашысцкіх канцлагераў (гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання ў перыяд вайны), калі яны не ўчынілі ў гэты перыяд злачынстваў супраць Радзімы, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

інвалідам з дзяцінства з прычыны ранення, кантузіі або калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны (ці з вынікамі ваенных дзеянняў), — на 15 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам, узнагароджаным ордэнамі і медалямі за самаадданую працу і бездакорную воінскую службу ў тыле ў гады Вялікай Айчыннай вайны, — на 15 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

в) грамадзянам, неабгрунтавана рэпрэсіраваным па палітычных матывах у перыяд рэпрэсій 20—80-х гадоў і ў далейшым рэабілітаваным, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

Пры наяўнасці права на павышэнне пенсіі на розных падставах, прадугледжаных пунктам "б" гэтага артыкула, налічваецца адно з указаных у ім павышэнняў.

## РАЗДЗЕЛ VI. ПРЫЗНАЧЭННЕ І ВЫПЛАТА ПЕНСІЙ

**Артыкул 46. Зварот за прызначэннем пенсій**

Ваеннаслужачыя тэрміновай службы і члены іх сем'яў з заявамі аб прызначэнні пенсій звяртаюцца ў раённы (гарадскі) аддзел сацыяльнага забеспячэння па месцы іх жыхарства, а асобы афіцэрскага складу, прапаршчыкі, мічманы і ваеннаслужачыя, якія праходзяць службу па кантракту, асобы начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і члены іх сем'яў — у пенсіённыя органы адпаведна Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

**Атрыкул 47. Органы, якія прызначаюць пенсіі, і тэрміны разгляду дакументаў аб прызначэнні пенсій**

Пенсіі ваеннаслужачым тэрміновай службы і іх сем'ям прызначаюцца органамі, вызначанымі Законам Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні", а асобам афіцэрскага складу, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям — адпаведнымі пенсіённымі органамі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь або Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь (з улікам часткі першай артыкула 12).

Дакументы аб прызначэнні пенсій разглядаюцца органамі, якія прызначаюць пенсіі, у тэрмін не пазней 10 дзён з дня іх паступлення.

**Артыкул 48. Тэрміны прызначэння пенсій**

Пенсіі ў адпаведнасці з гэтым Законам прызначаюцца:

а) ваеннаслужачым тэрміновай службы — з дня выпіскі са шпіталя або з дня звальнення з ваеннай службы, калі ўстанаўленне інваліднасці медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіяй і зварот за пенсіяй адбыліся не пазней трох месяцаў адпаведна з дня выпіскі са шпіталя або з дня звальнення з ваеннай службы, а сем'ям ваеннаслужачых тэрміновай службы і пенсіянераў з ліку гэтых ваеннаслужачых — з дня смерці карміцеля або ўзнікнення права на пенсію. Бацькам або мужу (жонцы) указаных ваеннаслужачых і пенсіянераў, якія набылі права на пенсію ў сувязі са стратай крыніцы сродкаў да існавання, пенсія прызначаецца з дня звароту за пенсіяй;

б) афіцэрам, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў — з дня звальнення са службы, але не раней дня, да якога яны былі забяспечаны грашовым забеспячэннем пры звальненні, акрамя наступных выпадкаў прызначэння ім пенсій з больш позніх тэрмінаў:

пры ўстанаўленні інваліднасці пасля заканчэння трох месяцаў з дня звальнення са службы або з прычыны няшчаснага выпадку або захворвання, якія мелі месца пасля звальнення, — з дня ўстанаўлення інваліднасці;

пры звальненні са службы ў сувязі з асуджэннем да пазбаўлення волі — з дня звароту за пенсіяй (артыкул 49) пасля вызвалення з месцаў пазбаўлення волі;

в) сем'ям афіцэраў, прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і пенсіянераў з ліку гэтых ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу — з дня смерці карміцеля, але не раней дня, да якога яму выплачаны грашовае забеспячэнне або пенсія, акрамя наступных выпадкаў прызначэння пенсій членам сем'яў з больш позніх тэрмінаў:

членам сям'і, якія набылі права на пенсію пасля смерці карміцеля ў сувязі з дасягненнем пенсіённага ўзросту (пункт "б", часткі трэцяй артыкула 30 і частка другая артыкула 31) або ўстанаўленнем ім інваліднасці, — з дня дасягнення гэтага ўзросту або ўстанаўлення інваліднасці;

бацькам або мужу (жонцы), якія набылі права на пенсію ў сувязі са стратай імі крыніцы сродкаў да існавання, — з дня звароту за пенсіяй (артыкул 49).

Пенсія за мінулы час пры несвоечасовым звароце прызначаецца з дня ўзнікнення права на пенсію, але не больш чым за 12 месяцаў перад зваротам за пенсіяй.

**Артыкул 49. Дзень звароту за прызначэннем пенсіі**

Днём звароту за прызначэннем пенсіі лічыцца дзень падачы заявы аб прызначэнні пенсіі з усімі неабходнымі дакументамі, а пры перасылцы заявы і дакументаў па пошце — дата іх адпраўлення.

У выпадках, калі да заявы аб прызначэнні пенсіі прыкладзены не ўсе неабходныя для вырашэння дадзенага пытання дакументы, заяўніку растлумачваецца, якія дакументы ён павінен прадставіць дадаткова. Пры прадстаўленні ім гэтых дакументаў да заканчэння трох месяцаў з дня атрымання ўказанага растлумачэння днём звароту за пенсіяй лічыцца дзень падачы заявы або дата адпраўлення дакументаў па пошце, указаныя ў частцы першай гэтага артыкула.

**Артыкул 50. Тэрміны пераразліку прызначаных пенсій**

Пры наступленні абставін, якія цягнуць змяненне размераў пенсій, прызначаных афіцэрам, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзілі службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям, пераразлік гэтых пенсій праводзіцца з першага чысла месяца, што ідзе за тым месяцам, у якім наступілі ўказаныя абставіны. Пры гэтым, калі пенсіянер набыў права на павышэнне пенсіі, розніца ў пенсіі за мінулы час пры несвоечасовым яго звароце можа быць выплачана яму не больш чым за 12 месяцаў перад зваротам за пераразлікам пенсіі.

Пры наступленні абставін, якія цягнуць змяненне размераў пенсій, прызначаных ваеннаслужачым тэрміновай службы і іх сем'ям, пераразлік гэтых пенсій праводзіцца ў адпаведнасці з тэрмінамі, устаноўленымі Законам Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні".

**Артыкул 51. Органы, якія выплачваюць пенсіі, і агульны парадак іх выплаты**

Пенсіянерам з ліку ваеннаслужачых тэрміновай службы і членаў іх сем'яў пенсіі выплачваюцца органамі сацыяльнага забеспячэння па месцы фактычнага жыхарства пенсіянера.

Пенсіянерам з ліку асоб афіцэрскага складу, прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям пенсіі выплачваюцца па месцы жыхарства пенсіянераў пенсіённымі органамі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь праз адпаведныя ўстановы (філіялы) ашчадных банкаў шляхам залічэння сум пенсіі ва ўклады або праз прадпрыемствы сувязі. Пры гэтым дастаўка і перасылка пенсій ажыццяўляюцца за кошт дзяржавы.

Выплата пенсій пенсіянерам праводзіцца за бягучы месяц у тэрміны, якія вызначаюцца пенсіённымі органамі па ўзгадненню з установамі ашчаднага банка і прадпрыемствамі сувязі.

**Артыкул 52. Выплата пенсій пенсіянерам пры наяўнасці заработку або іншага даходу**

Пенсіі, якія прызначаюцца ў адпаведнасці з гэтым Законам, выплачваюцца поўнасцю незалежна ад наяўнасці ў пенсіянера заработку або іншага даходу.

**Артыкул 53. Выплата пенсіі, не атрыманай своечасова пенсіянерам**

Сумы пенсіі, налічаныя пенсіянеру з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і членам іх сем'яў і незапатрабаваныя імі своечасова, выплачваюцца за мінулы час, але не больш чым за 3 гады перад зваротам за атрыманнем пенсіі.

Сумы пенсіі, не атрыманыя пенсіянерам своечасова па віне органа, які прызначае або выплачвае пенсію, выплачваюцца за мінулы час без абмежавання якім-небудзь тэрмінам.

**Артыкул 54. Выплата пенсій пенсіянерам, якія пражываюць у дамах-інтэрнатах**

Пенсіянерам, якія пражываюць у дамах-інтэрнатах (пансіянатах, тэрытарыяльных цэнтрах) для састарэлых і інвалідаў, выплачваецца 10 працэнтаў прызначанай пенсіі, але не менш 20 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту ў месяц. У тых выпадках, калі размер іх пенсіі перавышае кошт утрымання ў гэтых дамах-інтэрнатах (пансіянатах, тэрытарыяльных цэнтрах), выплачваецца розніца паміж пенсіяй і коштам утрымання, але не менш 10 працэнтаў прызначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту ў месяц.

Інвалідам вайны і іншым удзельнікам вайны пенсіі выплачваюцца ў такім жа парадку, але не менш 25 працэнтаў прызначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту.

Калі ў пенсіянера, які пражывае ў доме-інтэрнаце (пансіянаце, тэрытарыяльным цэнтры) для састарэлых і інвалідаў, ёсць дзеці (пункт "а", часткі трэцяй артыкула 30), то пенсія выплачваецца ў наступным парадку:

на адно дзіця — 25 працэнтаў, на дваіх дзяцей — 33 працэнты, на трох і больш дзяцей — 50 працэнтаў прызначанай пенсіі, самому пенсіянеру — астатняя частка пенсіі за вылікам утрымання ў доме-інтэрнаце (пансіянаце, тэрытарыяльным цэнтры), але не менш 10 працэнтаў (інвалідам вайны і іншым удзельнікам вайны — не менш 25 працэнтаў ) прызначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 55. Выплата пенсіі ў перыяд знаходжання на стацыянарным лячэнні**

За час знаходжання пенсіянераў з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і членаў іх сем'яў на стацыянарным лячэнні (у бальніцы, шпіталі і іншых лячэбных установах) прызначаная ім пенсія выплачваецца на агульных падставах.

Пенсіянерам, якія знаходзяцца ў лепразорыях, пенсія выплачваецца поўнасцю.

**Артыкул 56. Прыпыненне выплаты пенсіі на час пазбаўлення волі**

У выпадку пазбаўлення пенсіянера волі выплата прызначанай яму пенсіі прыпыняецца на час пазбаўлення волі.

**Артыкул 57. Утрыманні з пенсій**

Утрыманні з пенсій, якія выплачваюцца ў адпаведнасці з гэтым Законам, праводзяцца на падставе судовых рашэнняў, вызначэнняў, пастаноў і прыгавораў (у частцы маёмасных спагнанняў), выканаўчых надпісаў натарыяльных кантор і іншых рашэнняў і пастаноў, выкананне якіх згодна з заканадаўствам праводзіцца ў парадку, устаноўленым для выканання судовых рашэнняў. Акрамя таго, сумы пенсіі або дапамогі, залішне выплачаныя пенсіянеру з прычыны злоўжывання з яго боку, могуць утрымлівацца з пенсіі, якая яму выплачваецца, на падставе рашэння адпаведнага пенсіённага органа (частка першая артыкула 47) у размеры, што не перавышае 20 працэнтаў пенсіі, якая падлягае выплаце, звыш утрыманняў на іншых падставах. Пры гэтым ва ўсіх выпадках накіравання спагнанняў на пенсію за пенсіянерам захоўваецца не менш 50 працэнтаў належнай яму пенсіі.

У выпадку спынення выплаты пенсіі да поўнага пагашэння запазычанасці па залішне выплачаных сумах пенсіі або дапамогі запазычанасць, якая засталася, спаганяецца ў судовым парадку.

**Артыкул 58. Выплата пенсіі ў выпадку смерці пенсіянера**

Сумы пенсіі, якія належалі пенсіянеру з ліку ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і членаў іх сем'яў і засталіся недаатрыманымі ў сувязі з яго смерцю, не ўключаюцца ў склад спадчыны і выплачваюцца тым членам яго сям'і, якія адносяцца да кола асоб, што забяспечваюцца пенсіяй з выпадку страты карміцеля.

Аднак бацькі і жонка (муж), а таксама члены сям'і, якія пражываюць сумесна з пенсіянерам на дзень яго смерці, маюць права на атрыманне гэтых сум і ў тым выпадку, калі яны не ўваходзяць у кола асоб, што забяспечваюцца пенсіяй з выпадку страты карміцеля.

У выпадку смерці пенсіянера яго сям'і або асобам, якія не з'яўляюцца членамі сям'і, але рабілі пахаванне пенсіянера, выплачваецца дапамога на пахаванне ў размеры, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, але не менш пяціразовага размеру мінімальнай заработнай платы.

Пры звароце некалькіх членаў сям'і належная ім сума пенсіі дзеліцца пароўну.

**Артыкул 59. Выплата пенсій пры выездзе за мяжу**

Ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і членам іх сем'яў, якія выехалі на пастаяннае месца жыхарства за мяжу, пенсіі ў Рэспубліцы Беларусь не прызначаюцца.

Пенсіі, прызначаныя ўказаным асобам у адпаведнасці з гэтым Законам да выезду на пастаяннае жыхарства за мяжу, выплачваюцца ў парадку, прадугледжаным Законам Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні".

Парадак пераводу пенсій, прызначаных па інваліднасці, у іншыя дзяржавы вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 60. Пераразлік раней прызначаных пенсій у сувязі з увядзеннем у дзеянне гэтага Закона**

Пераразлік раней прызначаных пенсій ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і іх сем'ям у сувязі з увядзеннем у дзеянне гэтага Закона праводзіцца па дакументах, якія ёсць у пенсіённай справе да часу пераразліку. Калі пенсіянер у далейшым прадставіць дадатковыя дакументы, якія даюць права на далейшае павышэнне пенсіі, пераразлік праводзіцца за мінулы час, але не больш чым за 12 месяцаў з дня прадстаўлення дакументаў дадаткова і не раней, чым з дня ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона.

**Артыкул 61. Пераразлік пенсій у сувязі са змяненнем грашовага забеспячэння (заработнай платы)**

Пенсіі, прызначаныя ваеннаслужачым тэрміновай службы і іх сем'ям, са змяненнем заработнай платы, пераразлічваюцца ў парадку, вызначаным Законам Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні".

Пенсіі, прызначаныя асобам афіцэрскага складу, прапаршчыкам, мічманам, ваеннаслужачым, якія праходзілі службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў падлягаюць пераразліку з месяца, з якога адбылося змяненне грашовага забеспячэння.

У выпадку змянення грашовай кампенсацыі ўзамен харчовага пайка пераразлік пенсій асобам, указаным у частцы другой гэтага артыкула, праводзіцца з 1 студзеня года, што ідзе за годам, у якім адбылося гэта змяненне.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

17 снежня 1992 г. г. Мінск.
N 2050-XII.

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў" з 1 студзеня 1993 года.

Правесці пераразлік раней назначаных пенсій ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў у парадку і па нормах, якія вызначаюцца гэтым Законам.

Ваеннаслужачым, якім пенсія назначана да ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона, што не маюць па ўмовах і нормах дадзенага Закона права на больш высокую пенсію, яна выплачваецца ў сумах не ніжэй прадугледжаных заканадаўствам да ўвядзенне ў дзеянне ўказанага Закона.

2. Устанавіць, што на перыяд скарачэння колькасці Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь ваеннаслужачым, звольненым у запас па ўзросту, хваробе, абмежаванаму стану здароўя і скарачэнню штатаў, пенсія за выслугу ад 15 да 20 гадоў прызначаецца ў памеры: за выслугу 15 гадоў — 40 працэнтаў грашовага забеспячэння і за кожны год выслугі звыш 15 гадоў — 3 працэнты грашовага забеспячэння, але ўсяго не больш 50 працэнтаў гэтых сум.

3. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

прыняць неабходныя нарматыўныя акты па пытаннях, аднесеных Законам Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў" да кампетэнцыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

прывесці ў адпаведнасць з Законам "Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў" рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь і забяспечыць прыняцце і перагляд адпаведнымі міністэрствамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў;

прыняць меры па ўмацаванню кадрамі, удасканаленню матэрыяльна-тэхнічнай базы і аснашчэнню камп'ютэрамі, сродкамі вылічальнай тэхнікі, сувязі і транспарту органаў пенсіённага (сацыяльнага) забеспячэння Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, а таксама вырашыць пытанне аб матэрыяльным стымуляванні асоб указаных органаў, якія прыцягваюцца да гэтай работы на перыяд масавых пераразлікаў пенсій;

распрацаваць і зацвердзіць Пералік захворванняў, якія даюць права былым ваеннаслужачым устанаўліваць інваліднасць, звязаную з выкананнем абавязкаў ваеннай службы.

4. Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў" прымяняюцца акты заканадаўства Рэспублікі Беларусь і былога Саюза ССР, калі яны не супярэчаць гэтаму Закону.

5. Прызнаць страціўшай сілу пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 24 красавіка 1992 года "Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых" з 1 студзеня 1993 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

17 снежня 1992 г.
г.Мінск.
N 2051-XII

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь

Закон "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь" грунтуецца на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, прынцыпах міжнароднага права ў галіне правоў чалавека і нацыянальных меншасцей, ствараe прававую аснову ў сферы міжнацыянальных адносін, гарантуе свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей у Рэспубліцы Беларусь і заклікаы садзейнічаць гарманізацыі міжнацыянальных адносін у Рэспубліцы Беларусь, захаванню і развіццю культур нацыянальных меншасцей, задавальненню іх законных правоў і інтарэсаў.

**Артыкул 1.** Прыналежнасць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь да нацыянальнай меншасці з'яўляецца справай яго асабістага свабоднага выбару, з-за ажыццяўлення якога не могуць узнікаць ніякія неспрыяльныя наступствы.

**Артыкул 2.** Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія адносяць сябе да нацыянальных меншасцей, павінны выконваць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, яе законы, садзейнічаць захаванню дзяржаўнага суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці рэспублікі, паважаць традыцыі грамадзян усіх нацыянальнасцей, якія насяляюць рэспубліку, іх мову і культуру.

**Артыкул 3.** Не дапускаюцца якое б там ні было прамое або ўскоснае абмежаванне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь за іх прыналежнасць да нацыянальнай меншасці, а таксама спробы асіміляцыі супраць іх волі.

**Артыкул 4.** Ніхто ні пры якіх абставінах не можа патрабаваць ад грамадзяніна Рэспублікі Беларусь указання яго нацыянальнай прыналежнасці ні вусна, ні пісьмова.

Ніхто не мае права прымушаць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь да адказвання сваёй нацыянальнай прыналежнасці або да адмовы ад яе.

**Артыкул 5.** Рэспубліка Беларусь, паважаючы правы чалавека, гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія адносяць сябе да нацыянальных меншасцей, роўныя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя правы і свабоды, у тым ліку:

а) права на атрыманне дапамогі з боку дзяржавы ў справе развіцця нацыянальнай культуры і адукацыі;

б) права на вывучэнне і карыстанне роднай мовай;

в) права на друк і распаўсюджванне інфармацыі на роднай мове;

г) права на ўстанаўленне культурных сувязей з суайчыннікамі за межамі Рэспублікі Беларусь;

д) права на вызначэнне любой рэлігіі, спраўлянне нацыянальных і рытуальных абрадаў на роднай мове;

е) права на захаванне сваіх нацыянальных традыцый, развіццё прафесіянальнага і самадзейнага мастацтва;

ж) права на стварэнне сваіх нацыянальных культурных таварыстваў (аб'яднанняў);

з) права на аснове ўсеагульных, роўных і прамых выбараў быць выбраным у органы дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь;

і) права займаць любыя пасады ў органах дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6.** Пры Саветах народных дэпутатаў могуць ствараца і дзейнічаць на грамадскіх пачатках дарадчыя органы з прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей. Парадак фарміравання гэтых органаў вызначаецца адпаведнымі Саветамі народных дэпутатаў.

**Артыкул 7.** Рэспубліка Беларусь у адпаведнасці з заканадаўствам спрыяе стварэнню матэрыяльных умоў для развіцця адукацыі і культур нацыянальных меншасцей шляхам выдаткавання з дзяржаўнага бюджэту неабходных для гэтага сродкаў.

**Артыкул 8.** Нацыянальныя культурныя таварыствы (аб'яднанні) нацыянальных меншасцей маюць права ажыццяўляць гаспадарчую дзейнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9.** Грамадскія і культурныя арганізацыі нацыянальных меншасцей могуць ствараць на ўласныя сродкі свае культурна-асветныя ўстановы.

Падрыхтоўка спецыялістаў для задавальнення культурных інтарэсаў нацыянальных меншасцей ажыццяўляецца ў межах магчымасці навучальных устаноў рэспублікі і на аснове дагавораў, заключаных з нацыянальна-культурнымі аб'яднаннямі.

**Артыкул 10.** Помнікі гісторыі і культуры нацыянальных меншасцей на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца часткай беларускай культуры і ахоўваюцца дзяржавай у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11.** Забараняецца дзейнасць нацыянальных таварыстваў (аб'яднанняў), калі іх дзейнасць абмяжоўвае правы чалавека, прапагандуе нацыянальную, рэлігійную, расавую варожасць, пагражае канстытуцыйным асновам і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, а таксама калі яны арганізацыйна звязаны ці з'яўляюцца часткай палітычнай арганізацыі іншай краіны.

**Артыкул 12.** Грамадзяне Рэспублікі Беларусь усіх нацыянальнасцей карыстаюцца абаронай дзяржавы на роўных падставах.

Любыя дзеянні, накіраваныя на дыскрымінацыю па нацыянальных прыкметах, стварэнне перашкод у рэалізацыі нацыянальнымі меншасцямі сваіх правоў, распальванне міжнацыянальнай варожасці, праследуюцца па закону.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

11 лістапада 1992 г.
г.Мінск.
N 1926-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб ратыфікацыі Пагаднення аб кансультатыўных нарадах Старшынь Вярхоўных Саветаў (парламентаў) дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Пагадненне паміж Вярхоўнымі Саветамі Азербайджанскай Рэспублікі, Рэспублікі Арменія, Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Рэспублікі Кыргызстан, Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Таджыкістан, Туркменістана і Украіны аб кансультатыўных нарадах Старшынь Вярхоўных Саветаў (парламентаў) дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, падпісанае 27 лютага 1992 года ў горадзе Маскве, ратыфікаваць.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

15 снежня 1992 г.
г.Мінск.
N 2042-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь" з моманту яго прыняцця.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 студзеня 1993 года:

прадставіць у Вярхоўны Савет прапановы аб праявдзенні дзеючых заканадаўчых актаў у адпаведнасць з указаным Законам;

прывесці ў адпаведнасць з указаным Законам рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

11 лістапада 1992 г.
г.Мінск.
N 1927-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб ратыфікацыі Пагаднення аб Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Пагадненне паміж Вярхоўнымі Саветамі Рэспублікі Арменія, Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Рэспублікі Кыргызстан, Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Таджыкістан і Рэспублікі Узбекістан аб Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, падпісанае 27 сакавіка 1992 года ў горадзе Алма-Аце, ратыфікаваць.

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

15 снежня 1992 г.
г.Мінск.
N 2045-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб выбранні намесніка старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць намеснікам старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь КАМЯНКОВА Віктара Сяргеевіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1992 г.
г. Мінск.
N 2069-XII.

